## Зьмест



# Рэдактарскі ліст

**Студэнцкая думка**
**N 6 (67) 2001 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"

**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

**Рэдактар** Ірына Віданава

**Намесьнік рэдактара** Мікола Шакель

**Стыль і карэктура** Алена Беляеўская

**Дызайн вокладкі, вёрстка й афармленьне** Аляксандар Мазанаў

**Малюнкі** Натальля Лазука

**Адрэса рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск

**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19

**Пэйджэр (для рэклямадаўцаў):** (017) 211-85-85, абанэнт 6675

**Адрэса для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90

**Адрэса ў Інтэрнэце:** www.studumka.com

**E-mail:** studumka@tut.by

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.

Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.

Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.

*Надрукавана ў ДВПП "Прамдрук", 220000, г. Менск, Чарняхоўскага, 3. Ліцэнзія ЛП № 126 ад 30.12.1997 г.*
*Фармат 60х84 1/8*
*Папера афсэтная 65 г/м²*
*Падпісана ў друк 23.06.2001*
*Замова № 723*
*Наклад 2000 асобнікаў*
*Кошт свабодны*

Прывітаньне ўсім, хто пасьпяхова здаў чарговую сэсію! Прывітаньне таксама "хвастатым": не хвалюйцеся, увосень усе вашыя атавізмы выдаляць шляхам нескладанага хірургічнага ўмяшаньня.

Хацелі мы павіншаваць усіх вас з выхадам першага нумару новага студэнцкага выданьня – "Студэнцкай газэты", але сьвята на нашай вуліцы зноўку было азмрочанае: у Гомлі затрыманыя і зьбітыя сябры **ЗБС**у, якія тое зарэгістраванае выданьне распаўсюджвалі. Сумна, але гэта нашая рэчаіснасьць. Тут мы маем справу з больш сур'ёзнымі атавізмамі. Аднак усе мы добра ведаем, *што* зь імі трэба рабіць. І да апэрацыі засталося два зь нечым месяцы. Дыягназ ужо пастаўлены. Пра тую яго частку, што датычыцца нашай эканомікі, чытайце ў матэрыяле амэрыканскага карэспандэнта "СD" (а да таго ж – прафэсійнага эканаміста) **Сяргея Караля**.

Вядома, ніводзін нармалёвы студэнт улетку не сядзіць склаўшы рукі. Прапануем павандраваць разам зь **Дзянісам Іскарцавым** па Эўропе – паглядзець, як людзі жывуць. Праедзьцеся таксама са **студэнтамі-вандроўнікамі** па Пружаншчыне, каб яшчэ раз убачыць, як жывем мы. І падумайце, чым *мы* за *іх* горшыя. Здаецца, і мазгоў у нас ня меней (вунь якія пераклады робяць **студэнты МДзЛУ**!), і адукацыя ня горшая (пра тое – у артыкуле **Алены Філімонавай**), а ўсё-ткі нешта (ці нехта) замінае. Паразважайце пра гэта, але не забывайцеся, што часу на роздумы застаецца ўсё меней.

Дарэчы, сёньня вы маеце магчымасьць пазнаёміцца ў твар з тымі, хто робіць "Студэнцкую думку", і яшчэ раз запэўніцца, што гэта такія ж звычайныя (і разам з тым незвычайныя) хлопцы і дзяўчаты, як і вы самі. Так што пачытайце артыкул "**Усе на сход!**" і далучайцеся да нас!

І апошняе. Калі вы пабачыце гэты нумар, будуць ужо вакацыі. Цяпер жа, калі пішацца гэты артыкул, сэсія яшчэ ня скончылася. Таму ня будзем тут опусы складаць – адгартайце лепей наступную старонку. А мы пайшлі вучыць іспыты. Шчасьліва ўсім! Сустрэнемся ў жніўні!

# Студэнтаў зьбіваюць. Будзем цярпець?

*7 чэрвеня сябры ЗБС, студэнты менскіх навучальных установаў Крысьціна Сідун, Зьміцер Гаўрусік, Сяржук Паўлянковіч і Андрэй Вітушка прыехалі ў Гомель, каб распаўсюдзіць першы нумар афіцыйна зарэгістраванай "Студэнцкае газэты" ды чарговы нумар часопісу "Студэнцкая думка". Паездка была часткай агульнабеларускай акцыі – у гэты ж дзень газэты раздаваліся па навучальных установах Менску ды іншых гарадоў Беларусі.*

Каля дзявятай гадзіны пачаўся распаўсюд у галоўным корпусе Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Ф. Скарыны. Студэнты, якія ўваходзілі ці выходзілі з будынку, мелі магчымасьць узяць газэту. Большасьць рабіла гэта зь вялікай ахвотай.

Каля 9.30 да Андрэя Вітушкі падышлі два чалавекі ў звычайных строях пры гальштуках і прапанавалі прайсьці зь імі. У адказ на прозьбу прадставіцца і патлумачыць маршрут невядомыя заламалі Андрэю рукі за сьпіну і паспрабавалі сілай пацягнуць за сабой. Аднак хлопец не падаўся. Тады нападаўшыя штурхнулі студэнта на шкляныя дзьверы. Дзьверы разьляцеліся, Андрэй упаў тварам на падлогу, і тут жа на яго наваліўся адзін з "цывільных", пачаў душыць і біць тварам аб падлогу, пакрытую шклом. На крыкі і патрабаваньні выклікаць міліцыю ён гарлаў: "Ніякай міліцыі, сам прыдушу!" "Дабраахвотнікі" ў пінжаках заламалі рукі Сержуку Паўлянковічу і Зьмітру Гаўрусіку. Крысьціна Сідун спрабавала адцягнуць бандыта ад Вітушкі, але мужчына ўдарыў яе ў твар і адпіхнуў.

Толькі калі Андрэй пачаў губляць прытомнасьць, мужчына ўзьняўся, і студэнтаў павялі ў кабінэт прарэктара (!). Па дарозе чуліся крыкі і пагрозы ў бок Андрэя: "Ты яшчэ не разумееш, з кім зьвязаўся, я цябе паўсюль дастану, табе ня жыць..." У кабінэце мужчына патэлефанаваў нейкаму знаёмаму (называў імя) і папрасіў прывесьці нарад АМАПу ва ўнівэрсытэт. У хуткім часе двое ўзброеных хлопцаў у форме зья-віліся ў кабінэце. Мужчына аддаваў ім распараджэньні, якія тыя выконвалі. Студэнты былі абшуканыя, у іх забралі пашпарты (яны ва ўсіх былі з сабою). Схаваўшыся за сьпінамі хлопцаў, Крысьціна, на шчасьце, здолела дастаць мабільнік і паведаміць пра ўсё ў праваабарончы цэнтар "Вясна".

Студэнтаў адвезьлі ў Цэнтральнае аддзяленьне міліцыі Гомлі (Сялянская, 42) і пратрымалі там амаль дзевяць гадзінаў (да 18.45). Былі сканфіскаваныя газэты й часопісы. Міліцыянты адмаўляліся агучваць прычыны затрыманьня, не давалі ніякіх тлумачэньняў. Не выклікалі таксама і "Хуткую дапамогу". Да затрыманых не пускалі адваката і грамадзкіх абаронцаў, журналістам казалі, што студэнтаў выпусьцілі і яны "п'юць у рэстарацыі". Начальнік упраўленьня ўнутраных справаў Цэнтральнага раёну горада Гомелю палкоўнік міліцыі Смолікаў Іван Дзьмітрыевіч у грубай форме пагражаў затрыманым, абяцаў адпачынак у КПЗ, водар парашы і разборкі крымінальнікаў за нахабства і беларускую мову.

Толькі потым, калі прыехала выклі-каная грамадзкімі арганізацыямі "Хуткая дапамога", высьветлілася, што Андрэя неабходна везьці ў шпіталь. Пазьней судова-мэдычная экспэртыза зафіксавала ў яго ссадзіны і дробныя рэзаныя раны на лобе, крывападцёк каля левага вока, крывападцёкі на бакавых паверхнях шыі (з двух бакоў), крывападцёкі і падскурныя разрывы судзінаў у вобласьці плечавых сучляненьняў з заходам на падмышачныя вобласьці, сінякі на грудзях, шматлікія дробныя рэзаныя раны на далонях, рэзана-ўшыбленую рану даўжынёй 6 см унутранай паверхні левай галёнкі, паверхневую рэзаную рану правага каленнага сучляненьня даўжынёй 2 см, ссадзіны на нагах...

Пасьля 17.00 сьледчыя Дзьмітры Кавалёў і Уладзімер Сімак склалі пратакол, фармулёўкі якога былі сьпісаныя з заявы, што падалі... тыя, хто нападаў: *старэйшы юрыдычны кансультант Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту* ***Мяжэвіч М.М.*** *і прарэктар па гаспадарчай працы* ***Навуменка Н.П.*** З заявы вынікала, што менавіта яны сталіся ахвярамі, а ў якасьці доказаў Мяжэвіч прыводзіў... дробныя драпіны.

На той момант было ўжо вядома, што Мяжэвіч М.М. тры гады таму кіраваў тым самым аддзяленьнем міліцыі, быў падпалкоўнікам і пазбавіўся пасады за зьверскае зьбіцьцё анархістаў, адзін зь якіх быў зьбіты ў пастарунку да сьмерці.

...Сябраў ЗБС адпусьцілі, папярэдне ўзяўшы зь іх абяцаньне пад'ехаць у бліжэйшы час у Гомель для завяршэньня справы. Па словах адваката, у дачыненьні да пацярпелага А. Вітушкі захоўваецца верагоднасьць узбуджэньня крымінальнай справы.

Увесь час, пакуль ЗБСаўцы знаходзіліся ў пастарунку, ім дапамагалі людзі з розных арганізацыяў, гарадоў, краінаў: АБСЭ, Амэрыканская амбасада, шматлікія радыёстанцыі, Свабодныя прафсаюзы, "Вясна", Хельсынскі камітэт, Моладзевы інфармацыйны цэнтар, Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў, "Супольнасьць", БАРЦ, "Міжнародны кантакт", БНФ, Малады фронт, "Зубр", "Талака", АГП, Грамадзянскі форум, Камітэт выбарцаў Украіны...

## Заява ЗБС

Рэспубліканскае моладзевае грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў" (зарэгістравана ў 1992 годзе, перарэгістравана Міністэрствам юстыцыі ў 1999 годзе, пасьведчаньне аб перарэгістрацыі № 00513) выказвае абурэньне ў сувязі з нападам на Крысьціну Сідун (старшыня Рады РМГА "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў"), Андрэя Вітушку (старшыня суполкі ЗБС БДМУ), Зьмітра Гаўрусіка (сябра Рады ЗБС), Сержука Паўлянковіча (сябра Рады ЗБС, старшыня суполкі ЗБС МАМТ), што адбыўся 7.06.2001 у Гомлі. Напад быў зьдзейснены супрацоўнікамі адміністрацыі Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Ф. Скарыны ў часе распаўсюду сябрамі ЗБС афіцыйна зарэгістраваных у Дзяржкамдруку "Студэнцкай газэты" і часопісу "Студэнцкая думка". Па-зьверску зьбіты студэнт мэдычнага ўнівэрсытэту Андрэй Вітушка, беспадстаўна трымаліся ў пастарунку восем з паловай гадзінаў чацьвёра маладых людзей. Выканаўцы гэтых супрацьпраўных дзеяньняў вядомыя (старэйшы юрыдычны кансультант ГДУ М.М. Мяжэвіч і прарэктар па гаспадарчай працы Н.П. Навуменка), але дагэтуль не пакараныя, і з боку дзяржаўных органаў не прынята ніякіх захадаў да гэтага.

Інцыдэнт, што адбыўся 7.06.2001 у Гомлі, зьяўляецца парушэньнем артыкулаў 5 і 22 Закону "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях", артыкулаў 2 і 36 Канстытуцыі РБ, артыкулу 26 Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека.

Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў заклікае праваахоўныя органы правесьці галоснае, аб'ектыўнае і апэратыўнае расьсьледваньне інцыдэнту, што меў месца ў Гомлі 7.06.2001.

Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў патрабуе звальненьня небясьпечных для грамадзтва старэйшага юрыдычнага кансультанта ГДУ імя Ф. Скарыны М.М. Мяжэвіча і прарэктара па гаспадарчай працы Н.П. Навуменкі, прыцягненьня іх да адказнасьці, прадугледжанай заканадаўствам. Сябры ЗБС чакаюць прабачэньняў ад рэктарату ГДУ і кіраўніцтва Цэнтральнага аддзяленьня міліцыі Гомелю, у прыватнасьці ад Смолікава Д.І.

*Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў выказвае падзяку беларускім і міжнародным арганізацыям і прыватным асобам за аказаную падтрымку і дапамогу.*

***Інфармацыя атрымана ад прэсавай службы ЗБС***

сТУДЭНЦКАЯ газэта

11 4 .06.2001



Сяргей Кароль

# Канчатковы дыягназ

*Нярэдка даводзіцца чуць, што эканоміка Беларусі вельмі складаная ды нерацыянальная і зразумець яе з дапамогаю нармальнае эканамічнае тэорыі нельга. Гэта небясьпечная аблуда. Яна стварае ўстаноўку на тое, што нармальнае эканамічнае разьвіцьцё на Беларусі немагчымае, і дае карт-бляниш тым, каму ненармальнае разьвіцьцё палітычна выгоднае.*



Тое, што адбываецца ў эканоміцы Беларусі, няцяжка зразумець з дапамогай даўна вядомых эканамічных прынцыпаў. У трох папярэдніх матэрыялах* мы выклалі прыкладна чвэрць набору тых прынцыпаў, але нават гэтага досыць, каб патлумачыць ня толькі канкрэтныя факты беларускае эканомікі, але й раскрыць асноўную прычыну ейнага незайздроснага стану.

Мы апісалі чатыры галоўныя прынцыпы эканамічнага мысьленьня: непазьбежнасьць выбару, кошт упушчанай магчымасьці, дадатковае мысьленьне і рэакцыю чалавека на стымул. Аднак, як бачым, ва ўмовах Беларусі рацыянальнае прымяненьне гэтых прынцыпаў вядзе не да прадукаваньня матэрыяльных дабротаў, але да іх зьнішчэньня. На прыкладах з аранжыкамі мы паказалі, як працуе мэханізм цэнаўтварэньня ва ўмовах рынку, і давялі, што рэсурс нацыі папросту згарае, калі праца гэтага мэханізму парушаецца дзяржавай – шляхам празьмерных падаткаў, штучнага абмежаваньня цэнаў, выдачы субсыдыяў стратным прадпрыемствам. І нідзе няма больш яскравых прыкладаў гэтага, як на Беларусі. Мы разгледзелі "прынцып абыякавасьці", зь якога вынікае, што ад простага пераразьмеркаваньня дабротаў выйграе выключна той, хто валодае абмежаваным рэсурсам. Як бачым, урад Беларусі гэтага не разумее: ён імкнецца сканфіскаваць прыбыткі і рэсурсы ў тых, каго лічыць празьмерна багатымі, і перадаць іх тым, каго ўважае за незаслужана пакрыўджаных. У выніку нічога не мяняецца, адно толькі марнуюцца грамадзкія сродкі. Мы апісалі скрайнюю праяву ўмяшаньня ў цэнаўтварэньне і пераразьмеркаваньне рэсурсаў – "грамадзтва шукальнікаў хабару", у якім стымул шукаць узбагачэньня за чужы кошт мацнейшы за стымул прадукаваць. Мы прапанавалі таксама канцэпцыю "мёртвае страты" – пры кожным такім адміністратыўным пераразьмеркаваньні рэсурсаў матэрыяльныя даброты ня толькі пераходзяць з рук у рукі (гэта яшчэ кветачкі), але й папросту губляюцца, зьнікаюць, што выклікае абсалютнае скарачэньне эканомікі.

Ужо гэтыя веды дазваляюць ня толькі разабрацца ў тым, што адбываецца ў эканоміцы Беларусі, але й паставіць ёй "канчатковы дыягназ". І ён такі:

У выніку сыстэматычнага ўмяшаньня дзяржавы ў пытаньні вытворчасьці і спажываньня ў краіне склалася сыстэма стымулаў, якая болей спрыяе пераразьмеркаваньню матэрыяльных дабротаў ад аднае групы насельніцтва да іншай, чымся вытворчасьці гэтых самых дабротаў. У краіне скончыўся працэс фармаваньня "грамадзтва шукальнікаў хабару", чальцы якога занятыя пошукам субсыдыяў, якія ім выдае ўрад, што, у сваю чаргу, шукае сродкі для падтрыманьня адной групы насельніцтва за кошт рэкетаваньня іншай. Кожная такая "транзакцыя" суправаджаецца бессэнсоўнай стратай матэрыяльнага рэсурсу. Менавіта гэты працэс і называюць шматлікія камэнтатары, запазычыўшы бугальтарскі тэрмін, "марнаваньнем асноўнага фонду". Урад Беларусі, праз сваю правінцыйную савецкую адукацыю, ня ў стане зразумець канцэпцыю цаны і таму ніякай эканамічнае палітыкі, апроч пераразьмеркаваньня, ня бачыць і бачыць ня можа.

У сьвятле нядаўніх эканамічных падзеяў на Беларусі ўсё гэта стане больш зразумела.

## Case Study 1. Адзіны валютны курс

Пасьля шматлікіх месяцаў паралельнага існаваньня трох валютных курсаў у краіне быў ня так даўна ўведзены адзіны. Зь якой прычыны і што зьмянілася?

Паралельныя курсы маюць мала агульнага з валютнай палітыкай – гэта ўсяго толькі разнавіднасьць субсыдыі. Не сакрэт, што мэта такой палітыкі – даць магчымасьць дзяржпрадпрыемствам набываць валюту па заніжаным курсе. Выгодна гэта выключна прадпрыемствам – яны маюць магчымасьць таньней набываць замежнае абсталяваньне і камплектуючыя. Пры практычна стоадсоткавай залежнасьці беларускіх дзяржпрадпрыемстваў ад расейскіх дэталяў і сыравіны толькі адна гэтая мера можа падтрымаць неэфэктыўную вытворчасьць, павялічыць загрузку прадпрыемстваў, палепшыць графік выплаты заробкаў. Да таго ж, купляючы валюту са зьніжкай, прадпрыемства можа нічога на яе не набываць, а папросту адкладаць на даляравы банкаўскі рахунак ці адразу збываць па рынкавым курсе. Прыбытак – імгненны. Не валодаючы фактамі, я не магу меркаваць, ці займаліся дзяржпрадпрыемствы такой спэкуляцыяй, але гэта было б нядзіўна. Для нацыянальнай эканомікі ж наступствы ўсяго гэтага такія:



• Прадпрыемствы атрымліваюць субсыдыю ў выглядзе розьніцы паміж афіцыйным і рэальным курсамі. Гэтую субсыдыю яны накіроўваюць на падтрыманьне стратнае вытворчасьці. У выніку выйграе адміністрацыя і працоўныя (гэта дапамагае выплочваць ім заробак).

• Нехта мусіць аплаціць розьніцу. І гэта робіць урад. Ён можа купіць валюту па рынкавым курсе і прадаць па заніжаным. Гэткі вось *падарунак ад падаткаплатнікаў працоўным МАЗу*. Ён можа й "стрэсьці" валюту, па тым самым заніжаным курсе, з тых, хто гэтую валюту зарабіў на экспартных апэрацыях – *падарунак працоўным МАЗу ад салігорскіх шахтараў*. У любым выпадку адбываецца клясычная для грамадзтва шукальнікаў хабару транзакцыя – чыстае пераразьмеркаваньне і ніякае вытворчасьці. Дадайце сюды ж яшчэ адну падачку: каб салігорскія шахтары не пакрыўдзіліся, ім вяртаюць частку іхняе валюты ў выглядзе больш высокіх заробкаў. Падчас усіх гэтых транзакцыяў частка нацыянальных дабротаў папросту страчваецца.

• Рынкавы курс даляра расьце хутчэй, чым таго вымагае стан эканомікі: значная частка валюты не даходзіць да рынку, а прадаецца па афіцыйным курсе. Гэта выклікае рост рынкавага курсу, што вядзе да інфляцыі. Такі вось *падарунак працоўным ад усіх астатніх*.

Чаму ж урад вырашыў адмяніць паралельны курс? Хутчэй за ўсё, дадзеная крыніца субсыдаваньня стала занадта дарагой. Іншымі словамі, у скарбонцы скончыліся зялёныя. Паколькі ўсё меней і меней беларусаў прыносяць валюту "дадому" (з прычыны неэфэктыўнасьці вытворчасьці, адсутнасьці карысных выкапняў – апроч, бадай, солі – ды ізаляцыі краіны), сродкі на валютныя субсыдыі скончыліся. У выніку адмены паралельных курсаў адбылося тое, чаго й трэ' было чакаць: пачалі расьці цэны на прадукцыю беларускіх вытворцаў. Субсыдыі ляснуліся – вырасьлі цэны. Прычым гаворка ідзе пра цэны рэальныя, у даляравым эквіваленце, што ёсьць найболей яскравым сьведчаньнем неэфэктыўнасьці вытворчага працэсу. Тавары пакупнікоў адразу зрабіліся сумныя-сумныя: яны хутка зразумелі, што адбылося: *цяжар субсыдаваньня стратных прадпрыемстваў быў перакладзены з экспартэраў на простых грамадзянаў*. Рэакцыя ўраду не прымусіла сябе чакаць: ён паспрабаваў увесьці столь росту цэнаў, такім чынам ізноў зьдзейсьніўшы пераразьмеркаваньне. Гэтым разам – скраўшы ў вытворцаў і перадаўшы спажыўцам. Вось і яшчэ адна праява грамадзтва шукальнікаў хабару.

## Case Study 2. Шэфства банкаў над калгасамі і бескаштоўны крэдыт

Беларуская сельская гаспадарка, у якой практычна адсутнічаюць стымулы для вытворчасьці, страшэнна неэфэктыўная. Каб пазьбегнуць росту рэальных (у далярах) цэнаў на сельгаспрадукцыю, яе вытворцам трэба выдаць субсыдыю. Відавочна, калгасы ёсьць буйнымі атрымальнікамі паліва, якое раней набывалася за валюту па заніжаным курсе. Менавіта таму ўвядзеньне адзінага курсу супала з загадам банкам узяць шэфства над калгасамі, выдаць ім безадсоткавыя крэдыты ды прэзэнтаваць бескаштоўнае паліва.

З палівам усё зразумела – гэта непасрэдны хабар калгасьнікам (чаго ня зробіш для добрых людзей!). Але й безадсоткавы крэдыт ёсьць найчысьцейшым прыкладам грамадзтва шукальнікаў хабару. Замест братэрскае дапамогі калгасьнікам банк мог бы выдаць крэдыт пад добры адсотак прыватнаму прадпрымальніку Валеру Сініцу. А той бы ўжо знайшоў, што зь ім рабіць: уклаў бы, скажам, у канвэер па вытворчасьці запчастак. Аўтабазы атрымалі б свае гайкі, банк – адсотак, а сам Валер – прыбытак. Усім добра! Пры безадсоткавым жа крэдыце – выгада толькі для некаторых і поўная страта для ўсіх:

• Банк недаатрымлівае адсотак, які даруюць калгасу. Дзякуючы гэтаму калгас працягвае вырошчваць і збываць па нізкай цане прадукцыю, якая ў іншых варунках ня вытрымала б канкурэнцыі з аналягічным прадуктам

польскіх фэрмэраў. У выніку калгаснікам па-ранейшаму плацяць іхнія мізэрныя заробкі і выдаюць практычна бескаштоўны алькаголь. *Падарунак калгаснікам ад банкіраў* і яшчэ адзін сымптом грамадзтва шукальнікаў хабару. Дзеля справядлівасьці адцемім, што банкіраў у беларускай сыстэме шкадаваць не даводзіцца – ім дазволена займацца спэкуляцыямі на розьніцы курсаў. У абмен на правы на звышпрыбытак банкіры – людзі, зазвычай набліжаныя да ўраду – дзеляцца ім зь бюджэтам. Нехта ж павінен плаціць за лядовыя палацы! А мы з вамі, тым часам, занатоўваем чарговы прыклад грамадзтва шукальнікаў хабару.

• Праз тое, што большая частка банкаўскіх фондаў ідзе на выдачу танных крэдытаў дзяржпрадпрыемствам і калгасам, капіталу для тых, хто мог бы выкарыстоўваць яго прадуктыўна, не застаецца. Валер Сініца смокча лапу, аўтабазы сядзяць без запчастак, а іх супрацоўнікі – без заробку. Клясычны прыклад мёртвай страты ў грамадзтве шукальнікаў хабару.




## Case Study 3. Абяцанка вызваліць цэны на 80% прадукцыі

Хутчэй за ўсё абяцанка тая застанецца нявыкананай. І вось чаму:

• Па-першае, ва ўрадзе ніхто ня ведае, што такое свабодная цана і як яна ўтвараецца. Вызваленьне цэнаў выкліча такі моцны выбух інфляцыі, што напалоханы ўрад, нічога болей ня ўмеючы, прыдумае новыя спосабы цэнавага рэгуляваньня, зноўку пачне выдаваць субсыдыі і ўводзіць абмежаваньні.

• Па-другое, сам мэханізм фармаваньня свабоднае цаны адсутнічае. Цана – усяго толькі інфармацыя пра запыты спажыўцоў і магчымасьці вытворцаў. Ва ўмовах, калі вытворцы ёсьць ня ўласьнікамі сваёй зямлі, кваліфікацыі і часу, але залежнымі ад дзяржавы аб'яднаньнямі сацыяльных групаў, гэтая інфармацыя будзе ад пачатку памылковай. Звыклае да пошукаў хабару грамадзтва ня зможа ацаніць свае магчымасьці і запыты да тае пары, покуль сродкі вытворчасьці ня знойдуць уласьніка. У сёньняшніх жа варунках працоўныя пачнуць патрабаваць падвышэньня заробкаў, а неэфэктыўны вытворчы працэс і састарэлае абсталяваньне стануцца прычынай рэзкага росту цэнаў. Замест скарачэньня працоўных месцаў ды рэканструяваньня адміністрацыя прадпрыемства, у якой няма стымулу паляпшаць вытворчасьць (яна ёй не належыць!), хутчэй за ўсё пойдзе прасіць убожніну – безадсоткавы крэдыт, заніжаны курс, дзяржзамову, пастаўкі ў Лівію і г.д. Усё застанецца як і раней, толькі цэны вырастуць. Тым, хто ня памятае дарэвалюцыйных часоў, паведамляем, што менавіта гэта й адбылося ў 1994-95 годах.

Рэальны матыў "дэкляряцыі пра свабоду цэнаў" просты – усё тыя ж субсыдыі. Але цяпер хабару шукае сам урад, каб, як зазвычай, раздаваць падачкі іншым сацыяльным групам. Надта спадзявацца на расейскія субсыдыі ўжо не выпадае: дзядзя Валодзя ня надта любіць раскідвацца грашыма. Таму ўрад вырашыў паспрабаваць атрымаць сродкі ад МВФ. Там чамусьці патрабуюць свабоднага цэнаўтварэньня. Патрабуюць – чаму б не зрабіць? Рынак абяцанак у нас бяздонны, дый крэдыт на іх безадсоткавы.



Свабоднае цэнаўтварэньне ў нерэфармаванай эканоміцы магчымае. Яно завецца "шокавай тэрапіяй" і можа, як тое было ў Польшчы, мець добры вынік. Але ж для гэтага патрэбная прыватызацыя дробных прадпрыемстваў, устойлівы курс ураду на неўмяшаньне ў рынак, рашучасьць зьдзейсьніць эканамічны прарыў, жорсткі кантроль над буйнымі дзяржпрадпрыемствамі. Замест субсыдыяў ім варта выдаваць матэрыяльную дапамогу, да таго ж трэба аб'явіць расклад іх паступовае прыватызацыі. Сёньня на Беларусі гэтага чакаць не даводзіцца. Таму свабодныя цэны ў ёй лепей ня ўводзіць. У МВФ гэта, напэўна, разумеюць, аднак у сваіх дзеяньнях фонд кіруецца ня толькі эканамічнымі, але й палітычнымі матывамі. Пра апошнія прапануем вам паразважаць самастойна.

А ў нашых наступных матэрыялах мы працягнем разгляд эканамічных законаў. Зь іх мы ўбачым: тое, што адбываецца на Беларусі, ня толькі паддаецца апісаньню, але і зьменам – у лепшы бок. Усё, што для гэтага патрэбна, – крыху ўяўленьня і нармальная эканамічная граматнасьць.

* Гл. "CD", 2001, № 2–4.

■





Дзяніс Іскарцаў

# Эўрапейскі горад за адзін дзень

*Чэрвень. Сэсія. Іспыты. Зморчна. Але ўсё гэта непазьбежна мінае – для каго пасьпяхова, для каго – сяк-так... Самае галоўнае, што наперадзе вакацыі, вандроўкі! Тым, хто паедзе дасьледаваць абсягі "загнілага" Захаду, я хачу даць колькі парадаў, якія могуць дапамагчы адважным вандроўнікам.*

Такім чынам, маем наступныя ўмовы: адпраўная кропка – горад, маленькі ці вялікі; час – адзін-два вольныя дні; суб'ект – студэнт ці студэнтка, якія прагнуць новых уражаньняў. Праблема: трэба натаціць гэтую прагу!

Пачнем. Найперш неабходна вызначыцца з мэтай вандроўкі. Раскладаем мапу і шукаем адметныя месцы. Вядома, ня ў чорта на рагах. Зрэшты, адлеглась для кожнага вандроўніка вымяраецца часам (болей часу – далей едзеш) і сродкамі (болей грошай – хутчэй едзеш). Цалкам магчыма зь Мюнхену выправіцца на летаку ў Амстэрдам ці Брусэль на адзін дзень. А можна павадзіць сябе больш сьціпла: з квітком выходнага дня зьезьдзіць у Зальцбург альбо Нюрнбэрг – таксама на дзянёк. Ня будзьма вылузваца: наш вандроўнік – чалавек памяркоўны, грошы лічыць умее.

Такім чынам, спыняемся на цягніку – лепшым сродку перасову па Эўропе. Чыста, хутка, мякка, нядорага. Прынцыпы аплаты праезду ў эўрапейскіх краінах збольшага аднолькавыя. Квіток купляецца ад кропкі А да кропкі Б і дзейнічае два-тры дні. У кожным цягніку ёсьць вагоны дзьвюх клясаў: першай – "арыстакратычнай", і другой – "дэмакратычнай". Розьніца ў кошце, камфорце і наяўнасьці крыклівых дзяцей. Квіток купляеце ў касе, у аўтамаце альбо непасрэдна ў цягніку (апошні варыянт зазвычай даражэйшы, дый квіток можна набыць толькі ў адзін бок). Месцы магчыма папярэдне зарэзэрваваць, але гэта не абавязкова. Вядома, ёсьць рызыка прастаяць у тамбуры, асабліва ў пятніцу ўвечары ці ў нядзелю, затое вы не прывязаныя да канкрэтнага цягніка. Кошт квітка залежыць ад клясы цягніка: чым яна ніжэйшая, тым болей прыпынкаў робіць цягнік і тым павольней ён ідзе. У Нямеччыне існуюць наступныя клясы: ICE, IC, EC, IR, SE, RE, RB. І калі ICE (InterCityExpress) – гэта прыгожы імклівы белы экспрэс, што разьвівае хуткасьць да 280 км/гадз і курсуе паміж вялікімі гарадамі, то RB (RegionalBahm) – маленькі чырвоненькі цягнік з двух вагонаў, які злучае правінцыйныя гарады. Апроч звычайных, у кожнай краіне існуе мноства дадатковых відаў квіткоў, якія дапамагаюць значна паменшыць выдаткі. Гэта і квіток выходнага дня (SchonesWochenendeTicket) у Нямеччыне, які каштуе 40 марак, выдаецца на пяцёх чалавек і прыдатны для аднадзённых вандровак у прыгарадных цягніках на любую адлегласьць; і Go-Pass у Бэльгіі, што мае фіксаваны кошт у 149 франкаў (7,5 марак) і забясьпечвае вам дзесяць вандровак у любыя кропкі краіны. Цягнікі ходзяць часта. Калі вы спазьніліся, гэта ня значыць, што наступны цягнік, скажам, у Штутгарт будзе толькі заўтра: праз гадзіну-паўтары, а мо й меней, будзе яшчэ адзін. Даведацца пра расклад руху цягнікоў можна на вакзале зь інфармацыйных плакатаў, а можна проста спытацца ў касах, і вам бескаштоўна, з усьмешкай на вуснах, раздрукуюць патрэбны маршрут – з нумарам цягніка, часам прыбыцьця і адпраўленьня, станцыямі перасадак, нумарамі пляцформаў, ды яшчэ й падкажуць, які тарыф выгаднейшы. Пытайцеся, язык не адваліцца! Таксама выдатным бюро даведак ёсьць інтэрнэт-сайты чыгуначных кампаніяў (прыкладам, www.bahn.de, www.b-rail.be). Там

можна адшукаць усю згаданую інфармацыю і нават набыць квіток.

"А як жа аўтастоп?" – спытае "прасунуты" чытач. Вядома, гэта таксама нядрэнны сродак перасову, але пры адсутнасьці дастатковага досьведу – толькі на невялікія адлегласьці. Па недасьведчанасьці можна "засесьці" на якім-небудзь глухім выезьдзе на аўтабан і некалькі гадзінаў намарна махаць ручкаю рэдкім самаходам. Тым ня менш, рэкамэндую паспрабаваць – можа, спадабаецца... Але для пачатку пакорпайцеся ў Сусьветным Розуме, знайдзіце і пачытайце расповеды бывалых аўтастопэраў.

Такім чынам, паехалі! Вось яны – Парыж, Брусэль, Амстэрдам, Дрэздэн ды Бэрлін! Наперад! Але куды? Проста, направа ці налева? Бяз панікі! Калі не атрымалася падрыхтавацца загадзя, можна лёгка пра ўсё (ці амаль пра ўсё) даведацца на вакзале. Звычайна на вакзалах буйных ды папулярных сярод турыстаў гарадоў ёсьць інфармацыйныя пункты "Tourist Info", таму шукайце шыльду "і". Там можна атрымаць мапу гораду, запытацца пра месцы, якія варта наведаць, замовіць нумар у гатэлі. Ня самым горшым варыянтам будзе набыццё шляхаводніка (пры ўмове, што вас задаволіць ангельскі ці расейскі варыянт). Апроч агульнае інфармацыі, ён зазвычай зьмяшчае мапу цэнтру гораду. Не шкадуйце грошай – болей пабачыце і меней часу змарнуеце! Інакш можа здарыцца, як некалі са мною: неяк мы зь сябрам колькі гадзінаў блукалі па цэнтры Брусэлю ў пошуках знакамітага "Хлопчыка, што сікае". Ды так і не знайшлі б, калі б апошняе слова на шыльдзе "Maneken Pis" не падалося нам падазроным.

Яшчэ лепей, калі падрыхтоўка да выправы пачнецца загадзя. Можна залезьці ў Сеціва, знайсьці сайт гораду і атрымаць усю неабходную інфармацыю. Ёсьць яшчэ адзін спосаб, які я вельмі люблю, – вывучаць горад без сваёй мапы. Даволі неблагі варыянт, калі ніякіх асаблівых мэтаў ня маеш, а хочаш папросту пазнаёміцца з горадам.

Для пачатку варта запомніць, дзе месьціцца вакзал (вядома, калі мяркуеце вярнуцца). Збор інфармацыі пачніце з назваў вуліцы ці плошчы, прыпынкаў мэтро альбо трамвая, адметных пабудоваў ды помнікаў. Перш чым пакінуць будынак вакзалу, яго варта крыху вывучыць. Там можна знайсьці і мапу гораду, і схему руху грамадзкага транспарту, і інфармацыйны шапік. Карацей, вывучаем усё, што бачым, старанна занатоўваем ды замалёўваем. Потым выходзім на прывакзальную плошчу, аглядаемся, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на высокія званіцы цэркваў, вежы ратушаў, хмарачосы ды гандлёвыя вулкі. І цяпер – наперад. Арыентавацца на мясцовасьці дапамогуць стэнды, што сустракаюцца пэрыядычна, з плянам цэнтру гораду і адзначаным месцам, дзе вы знаходзіцеся. Не пашкодзіць праверыць і прыпынкі транспарту: там можна знайсьці ня толькі схемы і дакладны расклад руху, але й падрабязныя пляны. Самае галоўнае – памятаць свой маршрут ці, у скрайнім выпадку, уяўляць, у якім баку месьціцца вакзал. Калі справа ўжо зусім дрэнь – набліжаецца ноч, а вакзалу няма, – спытайцеся дарогу ў мясцовых жыхароў, якія заўжды дапамогуць.

Надзвычай цікава хадзіць па горадзе проста так, бяз мэты. Вось прыгожы дамок з выкшталцоным гаўбцом, крамка зь пекнаю вітрынай, сымпатычная кавярня. Вось ужо меней звычайныя турыстаў, што вывучаюць горад па тыповым пляне – Эйфэлева вежа, Трыюмфальная арка, Манмартр, Люўр, – меней японцаў з камэрамі. Затое болей утульных дворыкаў, вузенькіх вулак... Горад раскрываецца перад вамі, вы нібыта адгортваеце вокладку і бачыце сапраўдныя жывы зьмест – можа, не такі ўжо чысты й глянцавы, як у турыстычным цэнтры, але ня меней захапляльны. Кварталы артадаксальных габрэяў, дыямэнтавая вуліца і порт у Антвэрпэне, ваколіцы вакзалу Ostbahnhof з мноствам маленькіх кавярняў ды блашыны рынак у Мюнхене, ціхія жылыя кварталы Амстэрдаму са шчыльна прыціснутымі адно да аднаго вузенькімі трохпавярховымі дамамі. Два кварталы ўбок ад гандлёвае вуліцы – і горад мяняецца. Глядзіце, вывучайце, атрымлівайце асалоду!

І яшчэ колькі парадаў. Выпраўляючыся ў нядзелю, не забывайцеся, што пераважная бальшыня крамаў у гэты дзень не працуе. Выратаваць ад голаду й смагі, не спустошыўшы пры гэтым кішэню, можа загадзя падрыхтаваная "сабойка" альбо які-небудзь фаст-фуд, італійская піцэрыя ці кітайская рэстарацыя: хутка, дэмакратычна й нядорага.

Дадатковую эканомію пры наведваньні музэяў і набыцьці квіткоў можа даць міжнародны студэнцкі квіток ці моладзевая картка. Часам вераць і на слова. Для моладзі існуе мноства зьніжак, тады досыць нават дакумэнта з датай нараджэньня.

Тым, хто хоча пабыць у горадзе яшчэ колькі дзён, рэкамэндую моладзевыя гатэлі, так званыя Youth Hostel. Танна, без наваротаў, але цёпла, суха і чыста. Інфармацыю пра іх можна атрымаць у інфармацыйным бюро. І апошняя парада: зрабіце копію пашпарта і візы, а таксама запішыце тэлефоны дыпляматычнага прадстаўніцтва Беларусі ў той краіне, куды накіроўваецеся. У жыцьці ўсялякае можа здарыцца, і тады гэтыя перасьцярогі залішнімі не пададуцца.

Вось, здаецца, і ўсё. Удалых вандровак!







*Тацяна Сапега*

# З тэатральнага жыцьця Беларусі: студэнцкія франкафонныя тэатры

*У красавіку 2001 году ў Менску адбыўся VIII Рэспубліканскі фэст франкафонных аматарскіх тэатраў. У ім бралі ўдзел больш за 15 школак, гімназій, коледжаў зь Менску і ўсіх абласьцей Беларусі (апроч Віцебскай), а таксама тры ВНУ – Беларускі дзяржаўны лінгвістычны ўнівэрсытэт, Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт і Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт. Мерапрыемствы такога кшталту ладзяцца ў розных краінах сьвету. Напрыклад, штогод франкафонныя фэсты праходзяць на Украіне, у Прыбалтыцы, Італіі, Афрыцы... Некаторыя зь іх – той жа фэст у Будапэшце – маюць ужо міжнародны статут.*

Франкафонны фэст у Менску падтрымліваюць Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Амбасада Францыі ў Рэспубліцы Беларусь. Па заканчэньні мерапрыемства падводзяцца вынікі і вызначаюцца пераможцы. Узнагародамі за лепшыя ролі зьяўляюцца паездкі ў Францыю на тэатральны фэст у Авіньёне.

Ужо трэці год запар у беларускім фэсьце бярэ ўдзел Франкафонны тэатр Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. За гэты час ён атрымаў узнагароды за лепшую пастаноўку, лепшы акторскі ансамбаль і лепшыя ролі. Галоўная заслуга ў гэтым, як сьцвярджаюць самі акторы, належыць кіраўніцы тэатру – выкладчыцы францускай мовы БДУ Галіне Рыгораўне Прасновай. Яшчэ ў юнацтве сп-ня Галіна займалася ў тэатральнай студыі, а падчас настаўніцкай працы ў 79-й спэцыялізаванай школцы Менску сама кіравала школьным тэатрам. Таму, калі ёй прапанавалі займацца тэатрам у БДУ, сп-ня Галіна мела ўжо значны досьвед. Праца



Франкафонны тэатр ЭГУ

са студэнтамі для кіраўніцы – адначасова прыемная і цяжкая. Бадай, самая адказная справа – выбар рэпэртуару. Па-першае, хочацца задзейнічаць у пастаноўцы ўсіх ахвотных і абавязкова мець ролі для ўлюбёных актораў. Таму сп-ня Галіна марыць аб'яднаць у адным спэктаклі-кампазыцыі ўрыўкі з твораў Мальера, Бамаршэ, Растана й інш., каб даць кожнаму актору свой маленькі "зорны" кавалачак. Па-другое, сп-ня Галіна добра разумее, што француская мова для большасьці гледачоў ня родная. Таму вялікая ўвага ў тэатры надаецца ня толькі валоданьню мовай, але й відовішчнасьці пастаноўкі.

На сёлетнім фэсьце тэатар БДУ прадставіў сваё бачаньне твору П. Фэрары "Пераборлівы кліент". Менавіта сваю вэрсію, бо, як распавёў студэнт Дзяніс Фальковіч, напачатку п'еса падалася сухой і нецікавай, але ў часе працы над спэктаклем акторы тэатру разам з кіраўніцай перапрацавалі п'есу, сёе-тое дадалі – "ажывілі" матэрыял...

У пастаноўках тэатру бяруць удзел студэнты розных факультэтаў БДУ. У асноўным гэта філёлягі, юрысты, псыхолягі й будучыя дыпляматы.

Для Надзеі Рак, студэнткі 2 курсу філялягічнага факультэту БДУ, тэатар – увасабленьне мары: у свой час Надзея брала ўдзел у школьным тэатры і марыла пра акторскую кар'еру. Андрэй Валадкевіч, студэнт 2 курсу філялягічнага факультэту БДУ, меў досьвед удзелу ў школьным КВЗ, аднак хацеў паспрабаваць сябе ў нечым сур'ёзным, таму з радасьцю пагадзіўся на галоўную ролю ў спэктаклі тэатру. Для Дзяніса Фальковіча, студэнта 4 курсу філялягічнага факультэту, тэатар – магчымасьць адкрыць у сабе нешта новае.

Франкафонны тэатар БДУ выступае са спэктаклямі на сцэнах спэцыялізаваных школак, Беларускага дзяржаўнага лінгвістычнага ўнівэрсытэту, Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Сп-ня Галіна й ейны тэатар не зьбіраюцца спыняцца на рэспубліканскім узроўні: ёсьць пляны ўдзелу ў міжнародных франкафонных фэстах у Леоне, Будапэшце...

Зусім немаўляткам у параўнаньні з тэатрам БДУ ёсьць Франкафонны тэатар Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту: ён існуе толькі тры месяцы. Але за гэты кароткі тэрмін студэнты здолелі падрыхтаваць спэктакль і пасьпяхова выступілі на сёлетнім фэстывалі франкафонных аматарскіх тэатраў. Болей за тое – актор Кірыл Парукоў адзначаны за лепшую ролю паездкаю ў Авіньён.

Удзельнікі тэатру ЭГУ – студэнты, збольшага, першага і другога курсаў. І іхні тэатар ужо даволі вялікі. Толькі ў спэктаклі, прэзэнтаваным на фэсьце, удзельнічалі 15 студэнтаў. Адметнасьць ЭГУшнага тэатру ў тым, што ён насамрэч цалкам студэнцкі. Стваральнікам тэатру і яго кіраўніком зьяўляецца студэнтка 2 курсу факультэту права Ірына Александровіч. Дзеля праўдзівасьці, аднак, трэба зазначыць, што дапамагае й кансультуе студэнцкі тэатар ЭГУ акторка Купалаўскага тэатру Яўгенія Кульбачная.

На фэсьце тэатар ЭГУ прадставіў дзею "Начная кавярня" – прыдумку саміх студэнтаў. Спэктакль быў складзены зь вершаў розных францускіх паэтаў. Кожны актор меў сваю невялічкую ролю працягласьцю ў верш, таму кожная роля была галоўная і адметная. Мэлядычнасьць францускай паэзіі й шыкоўныя строі актораў уразілі гледачоў. Добры выступ на фэсьце надаў удзельнікам тэатру ўпэўненасьці ў сваіх здольнасьцях. Зараз тэатар ЭГУ рыхтуе новыя спэктаклі.

Для студэнтаў тэатар – магчымасьць рэалізоўваць свае задумы і проста з карысьцю бавіць час. Тэатар вучыць працаваць супольна, а да таго ж – адказваць за ўласную працу. А яшчэ студэнтаў франкафонных тэатраў аб'ядноўвае любоў да творчасьці, да францускай мовы і культуры. Што ж, зычым беларускім франкафонным тэатрам настойлівасьці, посьпехаў і, вядома, выступаў на францускіх сцэнах!



*Здымкі прэзэнтаваныя акторамі тэатру*





# Здаў іспыты?

# Маеш вольны час?

**Напішы артыкул на конкурс "Студэнцкай думкі"!**
**Конкурс ладзіцца па трох намінацыях.**

**Намінацыя першая – лепшы артыкул.** Тэмы для напісаньня артыкулаў:

- *Моладзевыя тусоўкі й групоўкі (панкі, гіпі, байкеры, ролеры, скінгеды...).*
- *Асьцярожна, інтэрнат! Карысныя парады па выжываньні ў месцах масавага згуртаваньня студэнтаў. Праблемы інтэрнатаў: цесната, канфлікты, п'янства і г. д.*
- *Графіці на вулках нашых гарадоў (а таксама народная творчасьць – надпісы на сьценах, платах, прыпынках). Хто й чаму гэтым займаецца?*
- *Жыцьцё звонку і ўнутры: прыхаваныя псыхалягічныя матывы нашых паводзінаў.*
- *Самы прыкольны студэнт вашае ВНУ.*

**Намінацыя другая – лепшы малюнак.** Распрацуй і дашлі нам маляваны вобраз беларускага студэнта. Уключы ўяўленьне! Лепшыя малюнкі – як, вядома, і лепшыя артыкулы – будуць друкавацца ў наступных нумарох "CD".

**Намінацыя трэцяя – показкі й сьмешкі са студэнцкага й моладзевага жыцьця.**

***Пераможцаў конкурсу чакаюць прызы ад "CD" і BMAgroup! Да таго ж, яны атрымаюць унікальную магчымасьць супрацоўнічаць са "Студэнцкай думкай".***

## Адпачывай актыўна – пішы ў "CD"!

Адрэса для допісаў: 220030, г. Менск, п/с 90.
Тэлефон рэдакцыі: (017) 213-22-19.

Вольга Цяцёркіна

# Вершы дзядзькі Сэма

23 траўня ў Дзяржаўным музэі гісторыі тэатру і музычнай культуры адбылася сустрэча зь вядомым амэрыканскім паэтам Сэмам Оклендам. Сама абстаноўка натхняла на роздумы пра вечнае, вышэйшае за чалавечае разуменьне – сьцены, завешаныя габэленамі, гукі фартэпіяна...

Сэм Окленд прэзэнтаваў свае дзьве кніжкі: "Апоўначнае сонца" і "Ўсьмешкі за кубкам гарбаты". Вершы выконваліся спачатку самім аўтарам у арыгінале, а потым – у перакладзе на расейскую.

Першая кніжка складаецца зь невялічкіх нерыфмаваных вершаў. Думкі аўтара напоўненыя разнастайнымі вобразамі, пахамі, тонкімі асацыяцыямі. "Бяжы за мною да мора, каб растапіць будзённасьць" вечнае мерзлаты – сапраўдны заклік да зьменаў. "Паруш межы, умоўнасьці", бо, магчыма, толькі так ты зразумееш сябе ў гэтым сьвеце.

Тэма каханьня відавочна турбуе аўтара. Яго дагэтуль перасьледуе чароўны вобраз жанчыны, "водар ейнае парфумы". Ён зь незвычайнаю цеплынёй узгадвае "пустую лаўку, дзе ўчора сядзела тая, чый абрыс захоўваецца ў сэрцы". Каханьне для яго асацыюецца з пахамі вясны, парфумы, кавы... Але нешта ўжо ніколі ня вернеш, нешта назаўсёды зьмянілася, і аўтар сумуе па "колішнім бляску"...

Вялікая тэма ў творчасьці Сэма Окленда – тэма тэатру. "Добра апрануты натоўп на праспэкце Скарыны" нагадвае яму трупу. Але ягоныя думкі – у "пустой танцавальнай залі". У адным з твораў ён прызнаецца, што танчыў у нумары гатэля ў поўнай адзіноце, таму што было надта цяжка чакаць чарговае імпрэзы. І чуюцца яму гукі адажыё... І вось доўгачаканае прадстаўленьне, і яму ажно "займае мову ад дзеі на сцэне". Раптоўна ён заўважае сябе "па-за сцэнаю, у натоўпе сярод танцораў, каб дакрануцца да Яе", сваёй спрадвечнай мары, якой, здаецца, так ніколі і не дасягне.

З тае прычыны, што Сэм Окленд выкладае літаратуру і права ў Беларусі ды бывае ў іншых краінах былога сацлягеру, ён добра разумее спэцыфіку гэтага рэгіёну і адлюстроўвае яе ў сваіх творах: "За чырвоным занавесам душна, але каханьне тут нараджаецца й квітнее". Нават у цяжкіх, скажоных умовах для кожнага ёсьць паратунак...

Творы другой кніжкі навеяныя вандроўкамі ў мэтро розных гарадоў сьвету – Токіё, Нью-Ёрку, Мадрыду, Навасібірску, Менску. Аўтар любіць назіраць за людзьмі, разгадваць іхныя характары, настрої.

Кніга "Ўсьмешкі за кубкам гарбаты" – гэта гісторыя каханьня двух людзей, якія сустрэліся ў мэтро. Ён вельмі бедны, а яна надзвычай багатая. Спачатку яна зьяўляецца ў сьне, увасабляючы ягоны выбух жарсьці. А пасьля першае сустрэчы ён нясе дамоў "успаміны пра яе", якія грэюць душу, непакояць фантазію, пераносяць у іншы сьвет. Ён цалкам раствораны ў Ёй, ён напоўнены ейным водарам, дотыкамі рукі да рукі, памятае адчуваньне цела, прыціснутага да яго. "Словы не патрэбныя", бо ў іх ёсьць час, ёсьць пачуцьцё, што захлынае абодвух. І нават у расстаньні ён "як вобраз у сэрцы беражэ", як самае дарагое, што ёсьць у яго на зямлі.

Вершам Сэма Окленда ўласьцівая недагаворанасьць: быццам тонкай карункаваю фіранкай завешанае вакно ягонае творчасьці, за якім толькі адгадваецца глыбіня перажываньняў. Вельмі далікатна аўтар кажа пра стасункі, узаеміны мужчыны і жанчыны, не пераступае межаў інтэлігентнасьці. Разгадку гэтай адвечнае таямніцы ён бачыць у прыгажосьці дачыненьняў, гармоніі духоўнага і цялеснага пачаткаў.

І кожную вясну ды восень ён 3–5 тыдняў бывае ў Беларусі, каб прачытаць кароткі курс лекцый у навучальных установах. Будзем чакаць на ягоныя новыя творы, дзе ў кожным радку скрозіць незвычайная чульлівасьць, лірычнасьць і жыцьцёвы досьвед.





Наталя Гардзіенка

# Поль Гаген: на раздарожжы жыцьця і творчасьці

*Мастацкі твор – для таго, хто ўмее бачыць, –*
*гэта люстэрка, у якім адбіваецца стан душы мастака.*
**Поль Гаген «Раней і потым»**

*У жыцьці і творчасьці Гагена ўсё надзвычай заблытанае, нязвыклае, супярэчлівае, усё прасякнута духам пратэсту супраць звыклых нормаў, супраць спакойнага памяркоўнага існаваньня.*

Поль-Эжэн-Анры Гаген нарадзіўся 7 чэрвеня 1848 году ў рэвалюцыйным Парыжы. Ягоны бацька П'ер-Гіём-Кляўс быў адным з рэдактараў памяркоўна-рэспубліканскай газэты «Насьёналь». У віры палітычных падзеяў напрыканцы рэвалюцыі ён адчуў, што ягонай сям'і небясьпечна заставацца ў Францыі, і накіраваўся да далёкіх берагоў Паўднёвай Амэрыкі. Там, у Пэру, жылі жончыны сваякі, якія маглі прыняць Гагенаў у сваю сям'ю. Аднак Кляўс так і не пабачыў экзатычнае зямлі – памёр у дарозе 30 кастрычніка 1849 году. Маладая Аліна засталася ўдавой з двума дзецьмі, аднак вырашыла не спыняць вандроўку. У Пэру жыў ейны старэнькі і багаценькі дзядзька Піо Трыстан дэ Маскоза, які вельмі цёпла сустрэў няшчасную пляменьніцу.

Так дзяцінства будучага мастака прайшло ва ўлоньні экзотыкі, што наклала адбітак на ўсё ягонае наступнае жыцьцё і творчасьць. «Я памятаю гэты час, – згадваў потым Гаген. – Наш дом, цэлы вір падзеяў, помнік прэзыдэнту, касьцёл... Я бачу яшчэ нашую маленькую мурынку, якая мусіла, паводле завядзёнкі, насіць у касьцёл дыванок, на якім маляцца. Я бачу таксама нашага служку-кітайца, які ўмеў надзвычай добра прасаваць бялізну...» Шчасьлівае дзяцінства ў гармоніі з прыродай і людзьмі розных расаў... Да ўсяго гэтага Гаген будзе імкнуцца праз усё жыцьцё.

Бесклапотнае дзяцінства скончылася, калі маці Поля вырашыла вярнуцца ў Францыю, дзе атрымала невялікую спадчыну. Сямігадовы Гаген змушаны быў пайсьці вучыцца ў сэмінарыю ў Арлеане, аднак спачатку трэба было вывучыць незнаёмую французскую мову, якая ў Пэру была непатрэбная. Навучаньне ня дужа захапляла хлопчыка, які марыў пра кар'еру марака. І нават пераезд у Парыж не пашкодзіў гэтым фантазіям. У выніку, насуперак жаданьню маці, Поль Гаген у 1865 годзе зьбег простым матросам у гандлёвы флёт. Плаваў у Паўднёвую Амэрыку, нібыта жадаючы вярнуцца ў атмасфэру дзяцінства. Праз некалькі год, калі пачалася франка-пруская вайна, Гаген пайшоў служыць у вайсковы флёт на Паўночным моры.

Параза Францыі паставіла крыж на марскай кар'еры, і ў 1871 годзе з дыплёмам матроса першае клясы, але бяз грошай, Гаген апынуўся ў Парыжы. Маці памерла чатыры гады таму, не пакінуўшы сыну амаль нічога. «...Што датычыць майго дарагога сына, дык ён сам мусіць зрабіць кар'еру», – пісала яна ў тэстамэнце, так і не даравваўшы яму самавольныя ўцёкі на флёт. Аднак Гаген не застаўся адзін. Апякун сястры ўладкаваў яго на службу ў банк, і ўжо праз два гады Поль заняў там значную пасаду, займеўшы значны грашовы прыбытак і рэпутацыю фінансавага генія.

Стабільнае становішча ўдалага бізнэсоўца зрабіла магчымым шлюб з маладой датчанкай Мэт-Сафі Гад, якая вельмі ганарылася кар'ернымі посьпехамі і пэрспэктывамі мужа. Добры фінансавы стан дазволіў Гагену і яшчэ некаторую раскошу – цікавасьць да

мастацтва. Гаген пачынае зьбіраць творы вядомых мастакоў, аднак ня толькі для калекцыі: па вечарох, зачыніўшыся ў сваім пакоі, ён вучыцца маляваць сам. Спачатку гэта было толькі капіяваньне чужых шэдэўраў, праца над тэхнікай. Жонка прыхільна ставілася да заняткаў мужа: лічыла іх бяскрыўдным хобі, якое не замінае фінансавай кар'еры. Аднак для Гагена вельмі хутка жывапіс перастаў быць толькі хобі. Ён пазнаёміўся з парыскім асяродкам імпрэсіяністаў, наведваў выставы і падзяляў погляды новага мастацтва, уважаючы, што галоўнае для творцы – перадаць асабістае ўражаньне ад рэчаіснасьці. Добрыя адносіны з Эдуарам Манэ, Пісаро і іншымі, досыць пасьпяховы ўдзел у выставе імпрэсіяністаў 1881 году – усё гэта стварае ў Гагена ўпэўненасьць, што ён можа сказаць у мастацтве нешта сваё. Аднак сумяшчаць працу ў банку з жывапісам атрымлівалася ўсё цяжэй, і ў 1883 годзе Гаген кідае фінансавую кар'еру, каб цалкам прысьвяціць сябе творчасьці.

Першыя спробы зарабіць грошы сваімі творамі былі няўдалыя. Давялося пацiху прадаваць набытыя раней карціны, каб утрымліваць жонку і пяцёх дзяцей. У пошуках замоваў Гаген пераяжджае зь месца на месца, пакуль не падаецца на ўгаворы жонкі паспытаць шчасьця на ейнай радзіме, у Даніі. У паўночнай краіне шматлікія сваякі ў адзін голас пачалі схіляць Гагена кінуць жывапіс і вярнуцца да банкаўскай дзейнасьці, нават прымусілі яго пэўны час гандляваць халстом і папонамі для коней. Гісторыя гэтая скончылася тым, што Поль Гаген кінуў шклянкаю з гарбатай у пакупніка і вырашыў больш не займацца камэрцыяй, якая замінала творчасьці. Неабходнасьць забясьпечваць сям'ю і немагчымасьць дасягнуць гэтага жывапісам выклікала сур'ёзны канфлікт у сям'і. «Вось ужо шэсьць месяцаў, – пісаў ён сябру, – як я ні з кім не размаўляю. Ізаляцыя самая поўная; натуральна, што для сям'і я пачвара, якая не зарабляе грошы: у наш час паважаюць толькі тых, хто мае посьпех...»

Няспынная нэрвовая напруга, непрыманьне творчасьці Гагена мясцовай капэнгагенскай публікай – усё тое прымусіла мастака вярнуцца ў Францыю. Узяўшы з сабой шасьцігадовага сына, ён накіраваўся ў Парыж. Аднак паляпшэньня матэрыяльнага становішча не прадбачылася. Праца расклейшчыка афішаў не дазваляла ўтрымліваць сына. У той час Гаген пісаў да сябра: «Я зьведаў сапраўдную галечу – так бы мовіць, голад з усімі ягонымі вынікамі. Але гэта яшчэ нічога ці амаль нічога: з гэтым звыкаесься... Горай тое, што гэта стварае перашкоды ў працы ды ў інтэлектуальным разьвіцьці. Гэта праўда, што насуперак усяму пакуты абвастраюць геній. Аднак іх не павінна быць зашмат, інакш яны вас забіваюць...» Тым ня менш мастак не здаваўся, ён шмат працаваў і паступова набываў некаторую вядомасьць у колах імпрэсіяністаў, мастацтва якіх вельмі неадназначна, хутчэй нават адмоўна ўспрымалася ў тагачасным грамадзтве.

Жыцьцё ў Парыжы вельмі дарагое, і, каб крыху зэканоміць, а таксама пабыць бліжэй да прыроды, у 1886 годзе Гаген едзе ў Понт-Авэн, невялічкі гарадок у Брэтані. Тут ён шмат працуе і, здаецца, знаходзіць свой стыль... А таксама сваю хваробу: вялікая вільготнасьць сталася прычынаю рэўматызму. Правёўшы колькі часу ў лякарні, Гаген вырашае зноў падацца ў Паўднёвую Амэрыку на пошукі шчасьця і натхненьня.

Муж сястры ў Амэрыцы сустрэў мастака ня надта прыхільна, і праблема хлебу надзённага зноў паўстала надзвычай востра. Гаген вымушаны быў уладкавацца на працу па пабудове Панамскага каналу. Атрымаўшы крыху грошай, ён едзе на выспу Мартыніка. Тут яго захапляе прырода, плянтацыі трысьнягу, кавы, аранжыкаў, яркія колеры, трапічнае сонца... Усё гэта відаць на ягоных карцінах.

Экзатычная прырода абуджае фантазію, але адсутнасьць грошай, голад і хваробы (разнастайныя ліхаманкі) прымушаюць ізноў падумаць пра вяртаньне ў Францыю. Тут у лістападзе 1887 году Гаген знаёміцца зь Вінцэнтам Ван Гогам і празь некаторы час пагаджаецца на сумесную творчасьць. Мастакі накіроўваюцца на поўдзень Францыі, у Арль. Але ж ружовыя мары пра радасьць супольнае працы не маглі ажыцьцявіцца дзеля розьніцы ў характарах мастакоў. Змучаны, замкнёны, але валявы Гаген не ўспрымаў эмацыйнага, экзальтаванага Ван Гога, а апошні ня мог зразумець непахіснасьці і панурасьці сябра. Псыхічныя адхіленьні галяндца спрыялі накаленьню атмасфэры. Колькі разоў Ван Гог імкнуўся нават забіць Гагена, пакуль аднойчы, у хвіліну чарговага прыпадку, не адрэзаў сабе вуха. Каб не спакушаць лёс, Поль Гаген вырашыў вярнуцца ў Парыж, дзе ў 1889 годзе праходзіла Сусьветная выстава. Мастак амаль увесь час праводзіў у павільёнах краінаў Усходу. Тыя некранутыя цывілізацыяй месцы ўвасаблялі для яго ідэал свабоднага і шчасьлівага жыцьця далёка ад Эўропы зь ейнымі ўмоўнасьцямі.

Сталае непрыманьне публікай працаў Гагена падштурхнула яго да яшчэ адной вандроўкі ў Понт-Авэн, аднак і там мастака чакалі непрыемнасьці: напісаны ім партрэт жонкі мэра горада выклікаў абурэньне ня толькі ў самой замоўніцы, але і ў некаторых калегаў мастака. Ізноў змушаныя ўцёкі ў пошуках спакою. Маленькая рыбацкая вёска на беразе мора сталася толькі часовым прытулкам. У рэшце рэшт, змучаны адсутнасьцю прызнаньня і заўсёднай галечай, Гаген, распрадаўшы свае карціны, вырашае зьехаць на выспу Таіці.

Гаген шукаў ня толькі паўднёвае экзотыкі, ён прагнуў простых чалавечых адносінаў, не сапсаваных цывілізацыяй. І, здаецца, знайшоў іх у глыбінцы выспы. Мастак стаў жыць з тубыльцамі, завёў нават жонку зь мясцовых і мог увесь час маляваць прыгожых таіцянак. Ён пісаў сябрам: «Цывілізацыя патроху сыходзіць ад мяне, я пачынаю думаць проста, адчуваць вельмі мала нянавісьці да маіх бліжніх, больш за тое – я пачынаю іх любіць. Я валодаю ўсімі радасьцямі вольнага жыцьця, жывёльнымі і чалавечымі. Я пазбываюся ўсяго штучнага, я зьнікаю ў прыродзе...» Аднак ня ўсё было так бясхмарна. Адсутнасьць упэўненасьці ў будучыні, а таксама цяжкая хвароба страўніка, выкліканая гарачым кліматам і нязвыклай ежай, прымусілі Гагена праз два гады зноў вярнуцца ў Францыю.

У часе ягонай адсутнасьці ў Капэнгагене адбылося колькі ягоных выставаў, аднак грошы ад іх цалкам скарыстала жонка. Каб здабыць сродкі, мастак накіраваўся ў францускую Акадэмію Мастацтваў, спрабуючы прадаць свае карціны. Аднак дырэктар адпавёў мастаку: «Я ніколі ня буду заахвочваць вашае мастацтва, якое ўзрушае мяне і якога я не разумею. Вашае мастацтва занадта рэвалюцыйнае, каб ня выклікаць скандалу...» Тым ня менш ужо ў тым самым 1893 годзе ў Парыжы адбылася першая пэрсанальная выстава Гагена, хутка выйшла яго кніга пра жыцьцё на Таіці зь ілюстрацыямі. Аднак матэрыяльны стан так і не палепшыўся. Да таго ж, "цнатлівыя" французы не маглі дараваць мастаку ягонае супольнае жыцьцё з маладзенькай яванкай Анах. Падчас адной зь іх праходак па вуліцы Понт-Авэну на Гагена накідваюцца матросы і моцна зьбіваюць яго. Цьвікамі на ботах мастаку зламілі нагу, якая потым так і не загаілася.

Пакрыўджаны на французскае грамадзтва, у сакавіку 1895 году Поль Гаген назаўжды пакідае Францыю. Новая вандроўка на Таіці не прынесла заспакаеньня. Да старых праблемаў з грашыма і здароўем дадаліся новыя. Нечаканая вестка пра сьмерць дачкі выклікае жаданьне скончыць жыцьцё самагубствам. Аднак спроба атруціцца апынулася няўдалай і толькі яшчэ больш папсавала страўнік. Да ўсяго таго дадаліся праблемы з каланіяльнымі ўладамі. Каб падтрымаць барацьбу мясцовага насельніцтва за незалежнасьць, Гаген у 1899 годзе наладзіў уласнаручнае выданьне сатырычнага лістка «Ўсьмешка», дзе выкрываў несправядлівасьці французскай каланіяльнай адміністрацыі на Таіці.

Бунтарства і хвароба ў хуткім часе прымусілі Гагена зноў пераехаць, і гэтым разам на Дамінік, адну з Маркіскіх выспаў. На некаторы час гэта прынесла новую радасьць творчасьці. Тут Гаген між іншым піша кнігу ўспамінаў «Раней і потым»... Аднак новыя праблемы з каланіяльнай адміністрацыяй, абвінавачваньне ў падбіваньні да паўстаньня і наступныя тры месяцы турмы для хворага і напаўсьляпога Гагена сталіся апошнімі нягодамі. 8 траўня 1903 году мастак памёр. Кажуць, тубыльцы, якія прыйшлі на пахаваньне, лямантавалі: «Гора нам, Гаген памёр!»

Не прызнаны ні сьвецкімі ўладамі пры жыцьці, ні духоўнымі па сьмерці, Поль Гаген стаўся аб'ектам спрэчак паміж каталікамі і пратэстантамі, у выніку якіх быў пахаваны ўсё-ткі паводле каталіцкага абраду. Жытло ягонае было амаль цалкам разрабаванае, частка твораў выкінутая на сьметнік. Праўда, некаторыя ворагі Гагенавага мастацтва захавалі некаторыя ягоныя карціны і потым прадалі іх зь вялікім прыбыткам. Але тое будзе пасьля, і Поль Гаген ужо ня зможа гэтага пабачыць...



***Я** к вядома, 2001 год абвешчаны ЮНЭСКА годам моваў. Менавіта таму на ангельскім факультэце МДзЛу ў красавіку распачаўся конкурс: студэнты пісалі вершы, эсэі на тэму "Маю мару" (усё гэта, натуральна, па-ангельску), а таксама рабілі пераклады. Як паведаміла "CD" сябра журы конкурсу Алена Таболіч, адной зь лепшых працаў быў прызнаны пераклад верша Ўільяма Ўордсварта "The sun has long been set", выкананы студэнткай трэцяга курсу Натальляй Віцько. Натальля, нашыя віншаваньні! І сёньня чытач "Студэнцкай думкі" мае цудоўную магчымасьць даведацца, як гучыць Уордсварт па-беларуску...*

***Уільям Уордсварт***

# Сонца даўно ўжо зайшло

* * *

*Сонца даўно ўжо зайшло,*
*У небе зоркі пачнуць зьзяць,*
*А птушкі сярод дрэў, кустоў*
*Шчэ не пакінулі сьпяваць.*

*Зязюлю раптам ты пачуеш,*
*Яе самотнае "ку-ку",*
*Зь вятрамі разам павандруеш*
*На хвалях ветразя ў раку.*

*Няма нідзе на сьвеце лепей*
*За гэту чэрвеньскую ноч.*
*Мой добры, мілы сябра месяц!*
*Прашу, мне шчасьця напароч.*

* * *

# Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт

абвяшчае ў 2001-2002 навучальным годзе набор у **магістратуру па адміністраваньні грамадзкіх аб'яднаньняў і іншых некамэрцыйных арганізацыяў гуманітарнага профілю** па спэцыяльнасьці *паліталёгія* (спэцыялізацыя – *кіраваньне сацыяльнымі працэсамі*) з наданьнем ступені *магістра гуманітарных навук*, кваліфікацыі *палітоляга-мэнэджэра* і выдачай дыплёму дзяржаўнага ўзору.

**Уступныя іспыты:**

- Палітэлёгія, замежная мова (ангельская).
- Індывідуальнае сумоўе па заяўленай тэме.

Абавязковае патрабаваньне да кандыдатаў – вышэйшая адукацыя любога профілю.

Навучэнцам магістратуры прызначаецца стыпэндыя, іншагароднім – дадатковая грашовая дапамога на аплату жытла.

Тэрмін падачы заяваў – зь 15 жніўня да 15 верасьня 2001 году. Прыёмныя іспыты – з 16 па 25 верасьня 2001 году, пачатак заняткаў – 1 кастрычніка, тэрмін навучаньня – 10 месяцаў, форма навучаньня – дзённая.

Адрэса: 220013, г. Менск, вул. П. Броўкі, 3а,
Эўрапейскі гуманітарны ўнівэрсытэт,
Аддзел навуковых досьледаў, асьпірантуры й магістратуры (з пазначкай "магістратура NGO").

Тэл./факс: (017) 239-33-83, (017) 232-65-39, e-mail: scientific@ehu.unibel.by, civics@ehu.unibel.by (з пазначкай "магістратура NGO").

ЭГУ прапануе таксама кароткатэрміновую **праграму падвышэньня кваліфікацыі супрацоўнікаў гуманітарных няўрадавых арганізацыяў**. Набіраюцца чатыры групы па 12 слухачоў. Для слухачоў кожнае групы будуць зарганізаваныя два тыднёвыя адукацыйныя цыклі. Усе выдаткі на праезд і пражыцьцё бяруць на сябе арганізатары.

Даведкі па тэл.: (017) 239-33-83; e-mail: civics@ehu.unibel.by.





# Пружанскія прыгоды, альбо Хлопцы заехалі...

*Дарога – гэта жыцьцё... Памятаючы пра тое, кожны з нас, студэнтаў-вандроўнікаў, імкнецца зьвязаць свой уласны ход жыцьця менавіта зь ёй – гаспадыняй-дарогай. Нехта едзе ў Крым, на Каўказ, у Карпаты. Іншых чакаюць вакзалы Прагі, Будапэшту, Нью-Ёрку, Парыжу, Лёндану... Згодныя, вандраваць па-за межамі Беларусі цікава. Тым ня менш, мы ўпэўненыя, што замежныя вандроўкі карысныя хутчэй для розуму, чымся для сэрца. І калі вашаму сэрцу замала прыгажосьці "буржуйскіх" краявідаў, раім зьвярнуць увагу на родную Беларусь. Наладаваўшы заплечнік, прыхапіўшы намёт ды гітару, дазвольце сабе акунуцца ў прыгажосьць беларускіх палёў і лясоў, гарадоў і вёсачак... Запрашаем у вандроўку на Пружаншчыну.*


Пружаны. Гарадзкая сядзіба

Дабрацца да Пружан зь Менску даволі проста: электрычкай "Менск–Берасьце" да станцыі Аранчыцы, а там – прыгарадны аўтобус давязе вас да Пружан.


Пружанскі касьцёл

У Пружанах нас адразу чакаў сюрпрыз: горад з амаль дваццацітысячным насельніцтвам паўстаў перад намі ціхай і бязьлюднай ранішняй вёскай. Сустрэўшы старога дзядка-"пружака", мы зь вялікай цяжкасьцю даведаліся ад яго, як прайсьці да гарадзкога парка. Хвілін трыццаць пехатою – і вось вы ў цудоўным атачэньні старых дрэваў аглядаеце дом былых уладальнікаў горада, так званую "гарадзкую сядзібу". Паводле аднаго з паданьняў, менавіта тут адбываліся падзеі "Пана Тадэвуша" Міцкевіча. Паблукаўшы па сьцежках парка, паспрабуйце выбрацца на вуліцу Савецкую (зараз даведаецеся, навошта). Аднак барані Божа вам зьвярнуцца па даведку да "выпадковых мінакоў". Ня


Косаўскі замак

толькі вашая вопратка ды багаж, але й вашыя пытаньні могуць падацца пружанцам дзіўнымі, нават падазронымі. І тады вас чакае сюрпрыз нумар два... Лепей нікога не чапайце, сьмела праходзьце праз цэнтральную браму парка і па вуліцы крочце ўніз – да Пружанскага касьцёлу. Па левым баку вам адкрыецца цудоўны від на двухпавярховы ружовы будынак мясцовага аддзелу ўнутраных спраў, у мэтрах дваццаці ад якога і разьмешчаны касьцёл, дзе да 1941 году настаяцелем быў сёньняшні кардынал Беларусі Казімір Сьвёнтак. Зрабіўшы колькі файных здымкаў, азірніцеся – ці не падыходзяць да вас людзі "ў цывільным"? Калі так, то, значыцца, пра асьцярожлівасьць пружакоў ды пра ружовыя дамкі мы распавядалі вам дарма. Прапануем здацца адразу. Калі ж не – віншуем, вы паглядзелі амаль усе найпрыгажэйшыя мясьціны гэтага гарадка. Далей вас чакаюць Ружаны – былая дзедзіна Сапегаў ды Тышкевічаў.


Ружанскі палац. Двор

Ружанскі палац, XVIII стагодзьдзе... Павявае нечым шыкоўным – балі, кавалеры, дамы, каханьне й двубоі... Час росквіту і заняпаду Рэчы Паспалітай. І зусім іншае ў сёньняшняй рэчаіснасьці – разваліны, сярод якіх блукаюць авечкі ды козы. І толькі буслы ў небе вяртаюць нас з шатляндзкіх краявідаў у беларускія... Смуга часу быццам ператварыла гэтыя мясьціны ў краіну цудоўных мрояў. Ня хочацца адсюль зьяжджаць, але наступны пункт – Косава. Гэты самы маленькі гарадок Беларусі – ён налічвае каля дзьвюх з палова тысяч жыхароў – мае амаль 700-гадовую гісторыю. У фальварку Мерачоўшчына, блізу Косава, нарадзіўся "вядомы палітычны дзеяч Польшчы" (так, прынамсі, напісана на мэмарыяльнай дошцы) Тадэвуш Касьцюшка, якога ахрысьцілі ў мясцовым касьцёле. Напачатку XIX ст. у ваколіцы горада зьявіўся паляўнічы замак, які і сёньня ўражвае сваёй велічпу і пышнасьцю...


Ружанскі палац звонку

Вярталіся ў Менск празь Івацэвічы... Лёгкая дрымота навявала думкі пра смажаную бульбачку, зацірку і каву. Проста хацелася есьці. З настальгіяй прыгадалі пружанскіх супрацоўнікаў правапарадку: бедалагі, нясуць зараз недзе сваю нялёгкую вахту. Можа, яшчэ якіх шпіёнаў злавілі...

*З вамі вандравалі:*
*Генадзь Озем*
*Андрусь Кузьміч*
*Аляксей Парамонаў*
*Вадзім Зубрыцкі*


Косаўскі замак. Унутраная сьцяна





Марына Мікуліч

# А табе паралельна?

*У навуковай фантастыцы нярэдка сустракаецца панятак паралельных вымярэньняў, што існуюць у Сусьвеце адначасова, але не перасякаюцца адно з адным. Аказваецца, паралельны сьвет – не такая ўжо фантастыка. Прыклады можна адшукаць і ў нашым грамадзтве. І адным зь іх будзе сьвет людзей з абмежаванымі магчымасьцямі. У яго свой патэнцыял, свае абмежаваньні, свае цуды. Нядзіўна, што жыхары гэтага сьвету нібы ізаляваныя ад сьвету людзей са звычайнымі магчымасьцямі: яны – іншыя.*

Але ці так паралельныя тыя два вымярэньні адно аднаму? На першы погляд, сьвет людзей з абмежаванымі магчымасьцямі ёсьць толькі вытворным ад звычайнага сьвету. Жыхары абодвух – простыя людзі, якім у жыцьці часам не стае любові, часам сьмеласьці, а часам чалавечага разуменьня. Але на гэтае істотнае падабенства часта забываюцца. І забываюцца перш за ўсё людзі са звычайнымі магчымасьцямі, якім цяжка ці проста няма калі разгледзець пад незвычайнай абалонкаю нешта роднае. Людзі ж з абмежаванымі магчымасьцямі пра тое падабенства памятаюць заўсёды і таму імкнуцца заняць сваё месца ў звычайным сьвеце. Вядома, паасобку адстойваць свае правы на "месца пад сонцам" нялёгка. Але калі аб'яднаць высілкі, як гэта зрабілі сябры "Беларускай Асацыяцыі дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам" (БелАДДзІ і МІ), то можна дасягнуць мэты. На сёньня БелАДДзІ і МІ лучыць каля 4150 сем'яў, што выхоўваюць дзяцей і падлеткаў з разумовымі ці фізычнымі абмежаваньнямі. З аднаго боку, гэта кропля ў моры – калі ўлічыць, што, паводле статыстычных дадзеных, на 1 верасьня 2000 году ў рэспубліцы налічвалася 29080 дзяцей-інвалідаў, ня кажучы ўжо пра моладзь і дарослых. Зь іншага гледзішча, гэта ўжо рэальныя дзеяньні па падтрымцы людзей з абмежаванымі магчымасьцямі, па аказаньні дапамогі іхным сем'ям, па зьмяненьні грамадзкае думкі ў дадзеным пытаньні. Структура БелАДДзІ і МІ надзвычай разгалінаваная – 54 арганізацыі па ўсёй Беларусі, у тым ліку ў такіх гарадох, як Вялейка, Слонім, Баранавічы. Асацыяцыя, такім чынам, ахапляе ці ня ўсю "геаграфію" праблемы. З дапамогай разнастайных сэмінараў (прыкладам, "Як людзі з разумовымі абмежаваньнямі рознай ступені думаюць і ўспрымаюць рэчаіснасьць"), круглых сталоў, акцыяў (згадайма тую ж "Акцыю падтрымкі чалавечае вартасьці"), супольных тэатралізаваных імпрэзаў, фэстаў (яскравы прыклад – Міжнародны фэст дзіцячае творчасьці "Запалі сваю зорку") сябры арганізацыі імкнуцца задзейнічаць дзяцей-інвалідаў ва ўсіх сфэрах жыцьця і такім чынам садзейнічаць іхняй інтэграцыі ў грамадзтва.

Самай жа галоўнай мэтай ёсьць збудаваньне партнэрскіх стасункаў паміж дзецьмі і бацькамі. Бо менавіта сям'я найчасьцей бывае астатнім апірышчам для дзяцей з абмежаванымі магчымасьцямі. Нядзіўна, што Другі Міжнародны фэст "Запалі сваю зорку", які праходзіў з 28 траўня па 1 чэрвеня 2001 году, уключаў ня толькі працу дзяцей і падлеткаў у творчых майстэрнях, але й трэнінг па творчым росьце для бацькоў: дзеці і бацькі павінны "расьці" разам і разам пераадольваць праблемы. Усе гэтыя простыя акцыі – ладзіць якія ня так і лёгка ў нашым грамадзтве, дзе ідэя дабрачыннасьці яшчэ ня надта папулярная, – дапамагаюць ня толькі падзяліцца праблемамі, але й паверыць у свае магчымасьці. Як сказала сп-ня Алена Сяльчонак, нацыянальны каардынатар праграмаў ЮНІСЭФ РБ, на прэсавай канфэрэнцыі, прысьвечанай міжнароднай кампаніі "Скажы дзецям "Так", такія акцыі дазваляюць яшчэ раз усьвядоміць тую ісьціну, што "кожнае дзіця – гэта дар Божы, нават калі яно крыху адрозьніваецца ад іншых".

І гэтую ісьціну трэба давесьці ня толькі бацькам, але і ўсім беларусам, паказаць, што мы можам быць адначасна рознымі і роўнымі. Таму Міжнародны фэст "Запалі сваю зорку" нацэлены апроч усяго іншага і на зьмяненьне грамадзкае думкі, дэманстрацыю дзіўных творчых магчымасьцяў дзяцей-інвалідаў: на зак-

лючным галя-канцэрце ў канцэртовай залі "Менск" на сцэну выйшлі пераможцы фэсту. Іна Афанасьева, рэкляму канцэрту якой, відаць, кожны бачыў па тэлевізіі, ужо шэсьць год ладзіць гэткія дабрачынныя канцэрты. Дакладней, як патлумачыла сама Іна падчас згаданай прэсавай канфэрэнцыі, ладзіць не яна адна. За кожным дабрачынным канцэртам стаяць ейныя шматлікія калегі і сябры, якія працуюць бясплатна й дапамагаюць сабраць грошы для дзяцей-інвалідаў. Але з кансэрватыўнаю грамадзкаю думкай трэ' яшчэ працаваць і працаваць. Паводле словаў Іны Афанасьевай, часта даводзіцца сустракацца зь неразуменьнем, зь нямым пытаньнем: "А вам што з таго будзе?" Таму шмат што робіцца на ўласныя сродкі. Але самы яскравы доказ неразуменьня ідэі дабрачыннасьці і яе важнасьці заключаецца ў тым, што на праспэкце Скарыны расьцяжку пра дабрачынны канцэрт замянілі на рэкляму канцэрту "камэрцыйнай сьпявачкі" Ірыны Алегравай. Абураная Іна Афанасьева зазначыла з гэтае нагоды: "Беларусы проста ня ўмеюць паважаць сябе".

Гэткі вось удар ніжэй поясу. І ўдар заслужаны. Нягледзячы на так званую сацыяльную палітыку дзяржавы, у нашым грамадзтве дзейнічаюць усё-ткі рынкавыя законы: хто болей плаціць, той і музыку замаўляе. А грамадзтва маўчыць. Звычайныя людзі не зьвяртаюць увагі: крыўдзяць жа ня іх, а жыхароў паралельнага сьвету, людзей з абмежаванымі магчымасьцямі. Застаецца спадзявацца, што такія арганізацыі, як БелАДДзІ і МІ, здолеюць супольнымі высілкамі адстаяць права людзей зь фізычнымі і псыхічнымі абмежаваньнямі на ўсё тое ж "месца пад сонцам", якое так усім нам патрэбна. Нездарма ж Іна Афанасьева выказала спадзеў, што ў наступным годзе заключны канцэрт Міжнароднага фэсту "Запалі сваю зорку" пройдзе ў Палацы рэспублікі.

*Mr. Doomkin*

# Усе на сход!

*Быў суботні вечар, 26-га траўня. Яны падыходзілі па адным ці па двое. Асьцярожліва азіраліся наўкола і зьнікалі ў пад'езьдзе. З паўгадзіны паназіраўшы за ўсімі тымі манэўрамі, наваколныя бабулькі зладзілі нешта кшталту імправізаванага таталізатару, марна спрабуючы адгадаць, што ж гэта там такое адбываецца...*

Увявіце сабе карціну: вы ўзьняліся на пляцоўку, знайшлі патрэбныя дзьверы, пазванілі – і раптам вам адчыняе нейкі вар'ят з паўмэтровымі нажніцамі ў руках ды з лагоднай усьмешкай на твары, а за ягонаю сьпінай на сьцяне вісіць плякат: "Усіх пaрэжу! Нам. мясьнік галоднага рэдактара". Як мяркуеце, куды вы трапілі? Ну, вядома ж, у рэдакцыю "Студэнцкай думкі"! Мушу сказаць, што ў большасьці аўтараў і супрацоўнікаў "CD" нэрвы сталёвыя. Прынамсі, амаль ніхто з запрошаных на рэдакцыйны сход, які адбыўся 26 траўня (гэта, як вы ўжо здагадаліся, і ёсьць выйгрышны адказ у таталізатары), на нажніцы гэткіх пагрозьлівых памераў нават не зьвярнуў увагі. Праходзілі, распраналіся – і адразу траплялі ў абдымкі галоўнага рэдактара Іры Віданавай.

Нарэшце прыйшлі, відаць, усе, хто на той момант быў у стане хадзіць. Таму паступіла прапанова нevыязных ды нетранспартабэльных не чакаць і распачаць афіцыйную частку.

Адкрыла яе Ірына Віданава з дакладам на тэму ""Студэнцкая думка" як сродак прачышчэньня мазгоў". Па праўдзе кажучы, выступ Ірыны нагадваў хутчэй пэрфоманс з раздачай старых нумароў "CD" на "пагартаць", з прытанцулькамі і заклікамі пісаць добрыя матэрыялы. Потым той самы "нам. мясьнік" Мікола Шакель (нажніцы ў яго ўжо адабралі) усіх разнаёміў і спрабаваў сказаць, што пра каго думае, але пэрспэктыва быць зачыненым у лазенцы яму ня надта спадабалася. Дый што казаць? Усе адно аднога ведаюць калі ня ў твар, дык, прынамсі, па публікацыях, якія і



Ірына Віданава: усьмешкі добрае сьвятло



Андрусь Клікуноў у хвіліну роздуму





ёсьць сапраўдным тварам кожнага журналіста. Да таго ж, усё болей позіркаў прыцягваў да сябе накрыты стол: як вядома, салаўёў басьнямі ня кормяць. Таму было аднагалосна вырашана афіцыйную частку завершыць і перайсьці да галоўнага.

А на галоўнае насамрэч было варта ня толькі паглядзець: сапраўдныя вэгетарыянскія торцікі (вядома ж, Натальля Казлоўская падказала, дзе іх можна замовіць), цукеркі, іншыя атрыбуты ўсялякага добрага сходу... Вось тут і распачалася сапраўдная гутарка: "Гу-гу-гу?" – пытаецца хто-небудзь з поўным ротам. "А-а-а! Бу-бу-бу", – адказваюць яму. Найболей увагі прыцягвалі, вядома, самыя сталыя аўтары "CD" (з тых, каго здолелі адлавіць) – Сяржук Зікрацкі ды Вольга Цяцёркіна. Усе распытвалі іх пра сакрэты творчага даўгалецьця. Высьветлілася, што таямніцаў ніякіх няма: папросту яны дагэтуль ёсьць студэнтамі (мне дык ажно пальцы забалелі лічыць усе вышэйшыя адукацыі Вольгі).

Аб'ектамі пільнае ўвагі сталіся таксама дызайнэр Аляксандар Мазанаў (заўважылі, якая ў нас цяпер супэраўская вокладка?) і вялікі добры геній рэдакцыі Аляксандар Казлоўскі. Апошні сам "не ўжываў" і астатнім сваімі закручанымі пытаньнямі не даваў расслабіцца. Тады ўсе дачапіліся да карэктаркі Алены Беляеўскай: "А скажы нам, у каго меней за ўсё памылак?" Вядома, кожны меў спадзеў, што менавіта ў яго. Алена ўсіх адразу паставіла на месца: "У кожнага свае памылкі!" Маўляў, няма чаго пальцы гнуць. Але я ўсё адно ведаю, што меней за ўсё памылак – у мяне...

Не абышлося і безь сюрпрызаў: на CD-агеньчык завітаў былы намесьнік рэдактара Андрэй Скурко. Сьлёзы раскаяньня навярнуліся на вачах гэтага мужнага дзецюка, калі ён пабачыў, *што* страціў. Маўклівы дакор у вачах Тацяны Сапегі, Марыны Мікуліч, Алены Арцімовіч, Андруся Белавокага ды іншых пакінутых "дзяцей" ня дасьць яму спакойна спаць па начах. З таго часу, як Андрэй сышоў, "CD" займела ўжо новую генэрацыю дзетак, таму Натальля Лазука тыцкала пальчыкам у ягоны бок ды лапатала: "Вой, а што гэта за страшны дзядзька?" З гора Андрэй са сваім цёзкам Андрусём Клікуновым ды са Зьмітром Гаўрусікам хуценька "саабразілі" на траіх. Пасьля толькі высьветлілася, што Зьміцер ня п'е. Наагул. Як, зрэшты, і большасьць "думкачоў".

Не абышлося і без гульні "Хто ёсьць хто?". Часам, каб зразумець, хто ж стаіць за тым ці іншым артыкулам, трэба самае малое зладзіць сьледчы экспэрымэнт. Гэтак, Зьміцер Баркоўскі, як высьветлілася, захапляецца спартовымі танцамі і носіць спадніцу. Ня знойдзеце вы ў тэлефонным даведніку і Стасю Куніцкую: канспірацыя – першае правіла прафэсійнага журналіста... На жаль, не прыйшоў Inconnu. Хацеў бы я паглядзець, што гэта за "конь" такі. Не было таксама Оркі. І я нават ведаю, каму за тое настукаць па імбрыку. Але пасьцерагуся...

Карыстаючыся нагодай (у якую камэру махаць?), хачу перадаць прывітаньне тым, хто "ня змог", быў "на лецішчы", "на канфэрэнцыі" альбо прыдумаў іншыя адмазкі. Ніхарашо, таварышы! Наступным разам з вас кампэнсацыя!

Насамрэч, усё было надзвычай файна. Самі ж разумееце: тое, што я тут напісаў, – няпраўда ад першага да апошняга слова. Сьведчаньне таму – здымкі, зробленыя ўпотай Тацьцянай Конюх. Шкада, што сама Тацьцяна ў аб'ектыў не патрапіла – апарат ня тым бокам трымала...

Вы спытаецеся, як жа простаму сьмяротнаму трапіць у тую прасунутую тусоўку? Зусім не складана. Пішаце артыкул, набіраеце нумар рэдакцыі – і вы ў раі! З нас – гарбата, кава, цікавыя размовы ды ганарары. Чакаем!

...На дварэ ўжо была ноч. Ні на каго не зважаючы, натоўп маладзёнаў зь вясёлай гаманою і песьнямі рухаўся ў бок тралейбуснага прыпынку...



Мікола Шакель зьмяніў нажніцы на больш прыемную рэч



"Працоўны калектыў"

# "Басовішча"!

**Штогадовы беларуска-польскі рок-фэст "Басовішча" адбудзецца 19-21 ліпеня 2001 году ў мястэчку Грудак, што пад Беластокам (Польшча).**

**Арганізатарам фэсту зьяўляецца польская грамадзкая арганізацыя Беларуская Асацыяцыя Студэнтаў, партнэрам якой на Беларусі выступае Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў.**

**По ўсіх пытаньнях, зьвязаных з даездам на "Басовішча", зьвяртайцеся ў ЗБС па тэлефоне: *(017) 232-27-43 (да Сержука Паўлянковіча).***





Дар'я Сітнікава

# Зьмест мэдыяў: што найбольш цікавіць моладзь у нашай краіне?

*"Сучасная моладзь – дрэнная моладзь".*
*Памылковая думка тых, каму за..., пра тых, каму да...*

*«Калі моладзь сёньня будзе думаць толькі пра дыскатэкі, асабістае жыцьцё – хаця гэта абавязкова павінна быць, – але ня думаць пра будучыню сваёй краіны, так мы і будзем жыць увесь час» (Я. Крыжаноўскі, зь інтэрвію БМ, 2001, № 10). Гэткая "аптымістычная" заява ці не галоўнага гумарыста краіны прымусіла задумацца. Калі мы жывем "так", то што сабе думае сучасная моладзь? Мы вырашылі даведацца пра гэта і зладзілі невялічкае апытаньне па тэме, вынесенай у загаловак артыкулу.*

## "Ахвяры" досьледу

Нашымі рэспандэнтамі былі 60 маладых людзей ва ўзросьце ад 17 да 25 гадоў – пераважна студэнты менскіх ВНУ. Падчас апытаньня выявілася незвычайная актыўнасьць моцнай паловы чалавецтва (у 99% выпадкаў хлопцы без ваганьняў давалі згоду запоўніць апытальнік, у адрозьненьне ад дзяўчат, якія чамусьці вельмі супраціўляліся).

Другое, што кінулася ў вочы (дакладней, у вушы), – гэта тое, што патэнцыйныя рэспандэнты ці не праз аднаго задавалі пытаньне: "А колькі нам за гэта дадуць?" Праўда, пасьля майго "недачуваньня" народ утаймоўваўся і матэрыяльнай кампэнсацыі болей не патрабаваў.

У апытаньні асноўная ўвага аддадзеная друкаваным СМІ, бо ўплываць на моладзевую сьвядомасьць якой-небудзь праграмай "5х5" – гэта прэрагатыва дзяржавы. Ёсьць розныя газэты, але іншае тэлевізіі няма.

## Якія ж газэты чытае моладзь?

Гэтае пытаньне відавочна выклікала цяжкасьці. Падчас анкетаваньня народ, няўцямна запытаўшы: "Што, назовы выданьняў пісаць?", пачынаў сур'ёзна думаць.

Самымі папулярнымі аказаліся *"Компьютерная газета"*, *"Компьютерные вести"*, *"Человек & Internet"* (першае месца), *"Комсомольская правда"* і *"Музыкальная газета"* (другое і трэцяе адпаведна).

## Што яна ў іх чытае?

"Гарачая пяцёрка" моладзевых схільнасьцяў і жаданьняў прэзэнтаваная на нашай дыяграме.

Дзеля плюралізму меркаваньняў у апытаньні фігуравалі як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя выданьні. Першыя – гэта ***"Чырвоная змена"*** і ***"Знамя юности"***, другія – ***"Беларуская маладзёжная"*** і ***"Молодежный проспект"***. Дзеля аб'ектыўнасьці мы ня згадвалі "CD" – інакш рэйтынгі папросту "зашкалілі" б.

Дык вось, каля паловы апытаных нешта чулі пра тыя моладзевыя выданьні, але іх не чытаюць. Астатнія 50% нічога ня чулі і ня ведаюць. Пры гэтым 2/3 з тых "астатніх" і ведаць не жадаюць. У неабазнаных у моладзевых mass-media найбольш сымпатыяў паводле назову выклікалі *ЧЗ* і *МП*.

Але чаму моладзевыя выданьні ня маюць папулярнасьці ў моладзе-




вых жа «масах»? У чым тут справа: у недахопе рэклямы ці, можа, у зьнешнім выглядзе ды зьмесьце выданьняў?

## Зьнешнія характарыстыкі

Дзяржаўныя СМІ заявілі, што яны – "газета для молодежи РБ" (*ЗЮ*) і "беларуская маладзёжная газета" (*ЧЗ*), тым самым прэтэндуючы на ўсеабдымнасьць і ўплывовасьць.

Недзяржаўныя СМІ аказаліся менш амбітнымі. "Шапка" *МП* вызначае, што гэта "газета молодых граждан Беларуси", а *БМ* – увогуле "рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета".

Афіцыйныя "папяровыя сябры" generation next маюць даволі салідны ўзрост. *"Чырвонцы"* ўжо стукнула 80 гадкоў. *"Знаменцы"* – далёка за 60. І куды зь імі цягацца малалетцы *БМ* (1994 г.) ды літаральна немаўляці *МП* (1999 г.)? Дый тое, што "молодым везде у нас дорога" выклікае некаторыя сумневы: дзяржаўныя "дзяды" выходзяць далека не маленькімі накладамі (звыш 11 тысяч кожны нумар *ЗЮ*, звыш 6 тысяч *ЧЗ*) ды ажно 3(!) разы на тыдзень, плюс некатория (*ЗЮ* ) – калі-нікалі ў каляровым друку. Вельмі добра прасочваецца і моўная палітыка "дзяржаўных мужоў" – на адну беларускамоўную *ЧЗ* амаль дзьве расейскамоўныя *ЗЮ*.

## Унутраны зьмест (параўнальна-непараўнальны аналіз матэрыялаў у сьвятле моладзевых запатрабаваньняў)

**Музыка** ёсьць № 1 у інтарэсах маладых людзей. Але на мой (і ня толькі мой) погляд, моладзь жадае чытаць далёка не падрабязны аналіз творчасьці і пляны на будучыню ансамблю "Харошкі" ці Аляксандра Саладухі. Тут у *ЗЮ* з музыкай сталы дэфіцыт. А калі яна (музыка) усё-ткі ёсьць, то ў большасьці выпадкаў падборка матэрыялаў пакідае жадаць лепшага. Няма сумневу, прыкладам, што Аіда Вядзішчава – выдатная сьпявачка, але я ня ўпэўненая, што шырокіх прыхільнік, скажам, року ведае, хто гэта такая. З аднаго боку, *ЗЮ* робіць вельмі патрэбную справу (гэткі рэтрамузычны лікбез), але калі гэта амаль уся музычная інфармацыя ў нумары... На гэтым тле даволі няблага выглядае *ЧЗ*, дзе музычнай інфармацыі ці не ўдвая болей. І ня толькі пра Іну Афанасьеву ды Алеся Байкова. Маюцца ў наяўнасьці "Postscriptum", "Арызона", "Калі-Юга" і інш. У *БМ* жа, дзе сёмая старонка – гонар рэдакцыі, усё добра: чытач стала, раз на тыдзень, атрымлівае музычную інфармацыю. *МП* мае шмат музычных матэрыялаў, але з-за малой пэрыядычнасьці падае іх несвоечасова. Там, гэтак жа сама, як і ў БМ, вы, праўда, не прачытаеце, як стварае свае шэдэўры "Руки вверх", але гэта толькі на карысьць вашай нэрвовай сыстэме.

Пачэснае другое месца, як мы памятаем, займае **палітыка**. Стаўленьне моладзі да палітычнай сытуацыі ў краіне вельмі рознае: ад "хай разьбіраюцца самі" і да "мы чакаем пераменаў, таму ўважліва сочым за разьвіцьцём падзеяў". Адразу хачу папярэдзіць асобаў, якія цікавяцца палітыкай і моладзевымі рухамі. Калі вы па начах сьпіцё спакойна, то і не бярыце ў рукі дзяржаўную прэсу. Бо там вы знойдзеце:

- інфармацыю пра дасягненьні Віцебскага (Берасьцейскага etc) РК БПСМ;
- інтэрвію з "клапатлівымі" дзядзькамі зь дзяржкаму па справах моладзі, якія выказваюцца фразамі, завучанымі яшчэ ў камсамольскай маладосьці;
- прымітыўныя тлумачэньні, што такое моладзевая палітыка і "ці патрэбна яна табе" і г. д.

Што да моладзевых рухаў, то яны, вядома ж, ёсьць. Гэта БПСМ!!! (у скрайнім выпадку – БСМ). Усіх астатніх у дзяржаўных моладзевых газэтах то адорваюць чарговым "камплімэнтам", то абыходзяць "оголтелых и непонимающих" эфэктным маўчаньнем.

№ 3. **Каханьне.** 50% апытаных пра гэта сказалі, астатнія 50% вырашылі памаўчаць. А тэма, у адрозьненьне ад росту ўнутранага валавога прадукту, сапраўды турбуе ўсіх і кожнага. Дык што ж ёсьць у моладзевых газэтах на самую моладзевую тэму? У *ЗЮ* або ціха і глуха, або развагі адразу паласы на тры (будзем браць зморам?). *ЧЗ* пэрыядычна радуе чытачоў "Інтым-клубам". Недзяржаўная прэса таксама ўбаку не застаецца. З новага году *БМ* выходзіць з рубрыкай "SEX-лікбез", а *МП* ладзіць асьвету насельніцтва праз "Раскладушку".





Далей – **культура**. Уражаньне такое, што жывем мы не ў адной краіне: прэзэнтаваныя ў газэтах кнігі ды часопісы розьняцца, зразумела, як дзень і ноч; культурныя дзеячы сартуюцца вельмі ўважліва (прыкладам, усё тая ж *ЗЮ* яўна забылася на Быкава і Разанава, затое два разы павіншавала І. Шамякіна з 80-годзьдзем). Пра тэатральныя рэцэнзіі лепей памаўчаць. Раім іх чытаць у *МП* – файна і разнастайна.

**Спорт.** Вось мы і дайшлі да таго, у чым дзяржпрэса "впереди планеты всей"! *ЧЗ/ЗЮ* прапануюць своеасаблівы "ёршык": ад футболу да муай-тай, ад салігорскага "Шахцёра" да ангельскага "Manchester United". Але і ў *БМ*, дзякуючы плённай працы сп.Зайца, спорт можа канкураваць зь дзяржаўнымі выданьнямі. У нумарох *МП* за гэты год спорту я не знайшла.

Аднак самае цікавае тое, што ўсё вышэйзгаданае займае ў дзяржпрэсе толькі палову (!) газэтнай плошчы. Як вы думаеце, што астатняе? Апошнія дасягненьні лідзкага малзаводу № 2, бэспрэцэдэнтны выпадак з крадзяжом зннай колькасьці відэаплэераў "Sharp", гісторыі пра салодкія мроі "дзяўчат у белых халатах" (кандытарак), "павестка дня" – выхоўваньне парсюкоў ды цялят на палескіх агракомплексах – і г. д. І кожнае такое шчасьце займае ня менш за палову паласы...

Карцела мне сказаць, што ўсе згаданыя моладзевыя выданьні ігнаруюць кампутаровую ды інтэрнэтаўскую тэматыку, ды не атрымліваецца: літаральна ў апошніх нумарох *ЗЮ* распачала новую рубрыку "Компьютерленд", дзе ёсьць даволі карысная інфармацыя для "імбрыкаў". Аднак інфармацыя тая, відаць, хутка скончылася, бо рубрыка некуды зьнікла. Калі з каханьнем незалежныя выданьні разабраліся больш-менш удала, то пытаньне з асьвятленьнем дзейнасьці "жалезнага розуму" застаецца адкрытым (а вось "CD" рэгулярна зьвяртаецца да гэтае тэмы).

## На каго ўсё гэта разьлічана?

*ЗЮ*. Уявіць, для каго гэтае выданьне, асабіста мне не стае фантазіі. Відаць, гэта БПСМаўская моладзь, 50% якой знаходзіцца ў шэрагах роднай арміі і якая абавязкова захапляецца сельскай гаспадаркай, папулярнай музыкай і спортам. Яна добра ведае, хто такі Аляксандар Нахаенка і хто болей за ўсіх клапаціцца пра тое, каб забясьпечыць маладым людзям шчасьлівае дзяцінства ды юнацтва. Трэба сказаць, што ў *ЗЮ* рэальная аўдыторыя з уяўнай супадаюць: аналізуючы "адваротную сувязь", можна канстатаваць, што гэтую газэту чытае вайскова-сялянская моладзь з "патрыятычным" членскім білетам у кішэні і "HI-FI"-еўскай мэлёдыяй у галаве. Апроч спорту, у астатніх пунктах "пяцеркі" *ЗЮ* разнастайнасьцю не вылучаецца.

*ЧЗ*. Самы вялікі (і, бадай, адзіны) плюс выданьня – тое, што *ЧЗ* выходзіць па-беларуску. Тып чытача – апалітычны беларускі рокер (хіба такое бывае?) зь веданьнем усяго пра дзяржынскую фабрыку па вытворчасьці кашуляў.

*МП*. Газэта сапраўды моладзевая. На мой погляд, *МП* – "жывая" газэта для жывой рускамоўнай моладзі. Супадзеньне аўдыторый не выклікае сумневу.

*БМ*. *БМ* чытаю я! Таму скажу: добра, але мала (у сэнсе старонак). Уяўная аўдыторыя – моладзь, якая ў твар пазнае Пашу Севярынца ў мэтро, – супадае з рэальнай.

Можна канстатаваць, што афіцыйныя выданьні можна выкарыстаць як заўгодна, толькі не для чытаньня. Незалежным выданьням не хапае спорту, кампутаровае старонкі і... газэтнай паперы. Бо акрамя пералічаных 5 тэзаў, моладзь прагне ПЕРАМЕНАЎ (гэта не заклік наведваць акцыі аднайменнай кааліцыі), да якіх дзяржпрэсе яшчэ далёка. Можна толькі пашкадаваць афіцыйныя выданьні і паспачуваць усім астатнім.

***Артыкул падрыхтаваны паводле эсэі, напісанай у Беларускім Калегіюме***

■

# Кітайская граматнасьць

*She has China in her eyes...*
***"Modern Talking"***

*Кацярына Варанчук нарадзілася ў Менску, скончыла10 клясаў школы. Вучылася два гады ў Адынглай Коледж (Ardingly College) у правінцыі Заходні Сасэкс на А-ўзроўні (вышэйшым). Потым атрымала стыпэндыю, каб вучыцца ў Оксфардзе па спэцыяльнасьці "кітаязнаўства".*

***– Чаму ты вырашыла паступаць менавіта ў Оксфард? Чым гэты горад цябе прывабіў?***

*– Оксфард – гэта невялікі гарадок на 80 тысяч жыхароў, зь якіх 15 тысяч – студэнты. У цэнтры гораду месьціцца ўнівэрсытэт – каля сарака коледжаў. Я вырашыла паспрабаваць паступіць у гэтую навучальную ўстанову прыкладна за год да сканчэньня школы. Прычыны тут можна назваць розныя. Я яшчэ раней наведвала Оксфард і вельмі ўпадабала гэты горад ды сам унівэрсытэт, гісторыя якога пачынаецца ажно ў XII стагодзьдзі. Акрамя таго, я ведала, што 99% выпускнікоў унівэрсытэту знаходзяць працу. Гэта вялікі адсотак. Мяне прывабіў вельмі добры факультэт кітаязнаўства і выдатная навучальная праграма.*

***– Чаму ты абрала менавіта кітаязнаўства, бо гэта дастаткова экзатычная спэцыяльнасьць, нават, здаецца, па іхных мерках?***

*– Мяне вельмі зацікавіў Кітай як краіна з буйным эканамічным разьвіцьцём. Яшчэ раней мяне вабілі кітайская філязофія, культура і гісторыя. Я думала, што зь веданьнем кітайскае мовы мне будзе нашмат лягчэй знайсьці працу, чым людзям, якія вывучаюць у Оксфардзе гісторыю ці, напрыклад, старажытнагрэцкую мову.*

***– Як паступіць у Оксфард? Якія трэба мець стартавыя ўмовы?***

*– Ангельцы атрымоўваюць вышэйшую адукацыю, збольшага, пасьля школы і вучацца ў ВНУ зь 19 да 23 гадоў. Апошнія гады школы можна параўнаць з нашым першым курсам унівэрсытэту. Там вывучаюць толькі тыя прадмэты, якія выбірае сам навучэнец. Я вывучала сучасную гісторыю, старажытную гісторыю, археалёгію, гісторыю мастацтва. Каб паступіць у Оксфард ці Кембрыдж, трэба мець адзнакі ААВ ці ААА (28-30 балаў) па А-ўзроўні. Кожны паступае па выніках школьных іспытаў. Замежніку паступіць цяжка, таму што сыстэма адукацыі ў Ангельшчыне адрозьніваецца ад тых, што існуюць у іншых краінах. Кожны абітурыент праходзіць сумоўе, дзе ў яго запытваюцца, чаму ён ідзе менавіта на гэтую спэцыяльнасьць. Часам бываюць нейкія невялікія іспыты, але гэта залежыць ад прадмэта. На сумоўі збольшага задаюцца пытаньні, каб пабачыць, як чалавек разважае, як умее аргумэнтаваць, адстаяць свой пункт гледжаньня, ці здольны штосьці даказаць, абгрунтаваць. Замежнікі мусяць здаць TOEFL і мець добры атэстат.*

***– Як праходзяць заняткі?***



Кацярына Варанчук

*– Лекцый няшмат. Бываюць клясы, дзе вывучаецца мова, дзе мы, напрыклад, перакладалі з кітайскае мовы на ангельскую ці наадварот. Раз у два тыдні студэнты сустракаюцца з выкладнікамі, атрымоўваюць заданьне, па выніках якога студэнт павінны напісаць эсэю. Потым гэтая эсэя правяраецца. За гэта ставяцца адзнакі і абмяркоўваюцца недакладнасьці й памылкі.*

***– Якія патрабаваньні да эсэі?***

*– Гэта зусім не агляд літаратуры. У літаратуры ты ніколі ня знойдзеш адказу на пытаньне. Студэнт павінны ня толькі праштудыяваць літаратуру і абдумаць пытаньне, але й выкласьці сваё бачаньне праблемы. І часам, калі выкладнік нязгодны з табою, гэта ня значыць, што тваё меркаваньне няправільнае. Выкладнік скажа: "Я думаю інакш, але, магчыма, ты таксама маеш рацыю". Такіх заняткаў, як у Беларусі, калі выкладнік чытае лекцыю, а студэнты вельмі хутка занатоўваюць, у Ангельшчыне ўвогуле няма. Праўда, у нас быў невялікі курс лекцыяў па гісторыі, але гэта ня быў агляд фактаў. Нас вучылі, як падзею можна інтэрпрэтаваць. На занятках нас падводзілі да разважаньняў: якія эканамічныя, палітычныя ўмовы маглі прывесьці да такога ходу падзеяў.*







St. John's College
Oxford





***– Распавядзі, калі ласка, пра звычайны дзень оксфардзкага студэнта.***

*– Любы студэнт мае да чатырох акадэмічных гадзінаў заняткаў, але ня кожны дзень. Пасьля заняткаў студэнт піша эсэі па розных прадмэтах – 3–15 старонак, робіць пераклады. Такога кшталту працы вельмі шмат. Але студэнт мае дастаткова вольны графік і сам распараджаецца – выконваць заданьні ўвечары ці ўдзень.*

***– Як праходзяць самі іспыты?***

*– Іспыты ўсе пісьмовыя, апроч вуснага маўленьня. Кожны іспыт доўжыцца тры гадзіны ў адмысловым будынку (exam schools). Усе оксфардзкія студэнты прыходзяць у форме: чорныя нагавіцы ці спадніца, белая кашуля, чорная мантыя, чорны маленькі гальштук. Студэнт павінны трымаць у руках квадратны капялюш, які, адылі, нельга апранаць. Насіць капялюш – гэта вялікі гонар, які можна заслужыць, атрымаўшы вышэйшую адукацыю. Але калі ў студэнта ў руках няма гэтага капелюша, то яго маюць права не пусьціць на іспыт. Гэта вельмі строга адсочваецца, бо гэта ёсьць оксфардзкай традыцыяй. На афіцыйныя вячэры студэнты таксама апранаюць форму.*

*Але вернемся да іспытаў. Студэнты здаюць іспыт за маленькімі партамі на аднога чалавека. Выдаецца сьпіс аднолькавых пытаньняў і папера, на якой трэба пісаць адказ. Студэнты і ня ведаюць, якія будуць пытаньні. Траціна ці нават палова зь іх ніколі не абмяркоўвалася на занятках. Але ня ўсё так сумна: звычайна даюцца дзесяць пытаньняў, зь якіх студэнты павінныя адказаць на любыя тры. Мэта – паказаць ня так веданьне фактаў, а ўменьне разважаць, думаць самастойна і хутка. Тое, што напісана ў падручніку, ня ёсьць адказам на пытаньне, таму што пытаньні вельмі аналітычныя. Адказы потым параўноўваюцца. Па замежнай мове практыкуецца іншая форма іспыту – даюцца газэтныя артыкулы ці тэкст для перакладу.*

*Сьпісаць немагчыма: аналітычнае пытаньне папросту ня сьпішаш. Да таго ж, у Ангельшчыне не існуе культуры сьпісваньня, бо за гэта могуць аўтаматычна выключыць з унівэрсытэту.*

*Іспыты здаюцца на першым ці на другім курсе, але самыя галоўныя – напрыканцы навучаньня. Ёсьць неафіцыйныя іспыты, якія праводзяцца пасьля вакацыяў. Гэта своеасаблівая форма кантролю зробленага студэнтам падчас вакацыяў.*

***– Ці платнае навучаньне ў Оксфардзе?***

*– Для большасьці ангельцаў да 1998 году навучаньне было бясплатным, яны павінныя былі плаціць толькі за пражываньне. Але ў 1998 годзе прэм'ер-міністар Тоні Блэр зрабіў заяву, у якой падкрэсьліў, што для дзяржавы гэта вельмі накладна. Зараз студэнты плацяць 1000–2000 фунтаў у год (20% ад сапраўднага кошту навучаньня). Калі ж у цябе надта цяжкая матэрыяльная сытуацыя, магчыма ўзяць крэдыт у банку, а потым, скончыўшы вучобу і знайшоўшы працу, вернуць яго. Шмат каму са студэнтаў дапамагаюць бацькі.*

***– Для большасьці нашых студэнтаў інтэрнат – месца вымушанага пражываньня. А што сабою ўяўляе оксфардзкі інтэрнат?***

*– У кожнага студэнта ёсьць свой пакой. Калі ў коледжы не хапае месцаў, то студэнт самастойна шукае кватэру, што прыкладна ўдвая даражэй. У пакоі звычайна ёсьць ложак, маленькая канапа, два крэслы, пісьмовы стол, стол для ежы, шафа і паліцы для кніг.*



OXFORD

***– Якія самыя прэстыжныя спэцыяльнасьці ў Оксфардзе?***

*– Права, літаратура, французская, нямецкая мовы.*

***– Што першае табе ўзгадваецца, калі ты думаеш пра alma mater?***

*– Шмат вучобы. Часам здараецца, што студэнты маральна ламаюцца, ня хочуць далей працягваць навучаньне, бо гэта сапраўды вельмі цяжка. Безумоўна, большасьць гэта пераадольвае. Оксфард – мара для тых, хто там ня вучыцца. Але тыя, хто вучацца, часамі пачынаюць ненавідзець навучаньне.*

***– Як оксфардзкія студэнты бавяць вольны час?***

*– Ходзяць у пабы, дзе сядзяць зь сябрамі і п'юць піва. Гэта самы папулярны занятак.*

*У Оксфардзе дзейнічае каля 150 клюбаў. Тут можна знайсьці аднадумцаў у любой справе. Існуюць шахматныя клюбы, клюбы дэгустацыі вінаў, клюбы экстрэмальнага спорту, эканамічныя, банкаўскія, спартовыя і г. д. Калі хочаш стаць сябрам клюбу, трэба заплаціць уступны ўнёсак, каля пяці даляраў.*

***– Ці ёсьць магчымасьць падпрацоўваць?***

*– Працаваць і вучыцца амаль немагчыма. Калі студэнты падпрацоўваюць, ім цяжка вучыцца, таму што трэба засвоіць вельмі вялікі аб'ём ведаў, і часу на працу не стае. Калі яны ўдзень працуюць, тады ўначы трэба вучыцца. Найчасьцей падпрацоўваюць афіцыянтамі ў гарадзкіх кавярнях.*

***– Хто выкладае ў ВНУ?***

*– Працаваць у Оксфардзе прэстыжна, і заробак у выкладнікаў нядрэнны. Большасьць зь іх – ангельскія кандыдаты навук (doctors), шмат таксама вядомых акадэмікаў і прафэсароў з замежжа. Замежную мову заўсёды выкладае ейны носьбіт. Але існуюць і супярэчнасьці – напрыклад, эканаміст-"практык" у Ангельшчыне заўсёды будзе зарабляць болей за выкладніка эканомікі. Таму выкладнікаў-эканамістаў зараз не хапае, а вось выкладнікам гісторыі знайсьці працу вельмі складана.*

***– Ці навучальны працэс кампутарызаваны?***

*– Ва ўсіх студэнтаў ёсьць бясплатны доступ да Інтэрнэту, электроннай пошты. У нашым коледжы было тры пакоі з кампутарамі, па 6–7 у кожным, і яны былі адчыненыя амаль што ўвесь час.*

***– Ці ёсьць гісторыі, зьвязаныя з унівэрсытэтам?***

*– Падчас інквізіцыі спалілі сьвятароў каля аднога з коледжаў. А калі Кромвэль прыйшоў да ўлады, ён стрэляў з гарматы ў адзін з будынкаў, бо людзі з гэтага коледжу падтрымлівалі караля. А гісторыя, напрыклад, майго коледжу (St. Jones College) пачалася ў XVI стагодзьдзі, калі нейкі багаты мэцэнат выдзеліў грошы на ягоную пабудову. Да таго ж ён набыў шмат зямлі ў горадзе і каля яго. Кошт зямлі з тых часоў вельмі ўзрос.Траціна зямлі Оксфарду знаходзіцца ва ўласнасьці гэтага коледжу, і ўсе, хто нешта будуе ці жыве на гэтай тэрыторыі, плацяць рэнту. Такім чынам, St. Jones College – самы багаты коледж у Оксфардзе.*

***– Чаму ты вернулася?***

*– Захацелася вернуцца. Каб у Ангельшчыне знайсьці добрую працу, трэба мець спэцыяльны дазвол. Калі дазволу няма, нікога не цікавіць узровень тваёй кваліфікацыі. Легальна атрымліваюць дазвол на працу кандыдаты навук, якія потым выкладаюць ува ўнівэрсытэце, а таксама тыя, хто мае родных у Ангельшчыне. Грамадзянства можна атрымаць, уклаўшы грошы ў буйную маёмасьць. Дазвол на працу даецца таксама студэнтам з Эўрапейскага Зьвязу.*

***– Я ведаю, што ты прыйшла да беларускасьці праз Ангельшчыну. Распавядзі, як гэта здарылася.***

*– Калі жывеш у Беларусі, то не адчуваеш, наколькі тут пашыранае прамываньне мазгоў. Асяродак, у якім я расла, заўсёды ставіўся да беларускае мовы як да мовы сялянаў: маўляў, мы – адукаваныя людзі і размаўляем толькі па-расейску. Калі тут жывеш, ніколі не задумваесься над гэтым. А на першым курсе ўнівэрсытэту я зразумела, што сытуацыя крышачку іншая, што ў нас ёсьць свая мова, культура. Калі я казала, што я зь Беларусі, усе перапытваліся, ці не з Расеі я. Менавіта тады я ўсьвядоміла, што так, сапраўды, я не расейка.*

*Там я спаткала выхадцаў зь Беларусі, некаторыя зь якіх сталі маімі сябрамі. Сярод беларускай моладзі, якая трапляе туды, шмат людзей, якія размаўляюць па-беларуску, і зь імі я пачала спрычыняцца да роднай мовы. Таксама мела шчыльныя кантакты зь беларускай дыяспарай: гэта людзі, якія эмігравалі пасьля другой усясьветнай вайны, і студэнты, якія прыязджаюць вучыцца ў Ангельшчыну празь беларускія каналы. У Лёндане жыве айцец Аляксандар Надсан – сьвятар уніяцкай царквы, які зрабіў на мяне вялізны ўплыў. Тут вельмі добрая беларуская бібліятэка, дзе нават ёсьць копія Бібліі Францыска Скарыны.*

***Вось як яно бывае: часам, каб зразумець, што ты – беларус, трэба паехаць у Оксфард вывучаць кітаязнаўства... Што ж, вучэцеся, спадарства, у Ангельшчыне, але вяртайцеся на радзіму, бо радзіме патрэбныя разумныя людзі.***

***Гутарыла***
***Вольга Цяцёркіна***





# Новае пра старое

*Гомасэксуалізм. За саветамі пра гэтую зьяву маўчалі: гомасэксуалізм караўся крымінальна. Напачатку 90-х пра гэта ўжо крычэлі ва ўсіх сродках масавае інфармацыі, бо чытачам хацелася чаго-небудзь пікантнага. Але і ў 70-я, і ў 90-я сутнасьць гомасэксуалізму заставалася па-за разглядам. І людзі працягвалі жыць у гэткім вакууме, даючы волю сваім антыпатыям. Чаму менавіта антыпатыям? Таму што чалавек заўсёды варожа ставіцца да таго, што ён не разумее... Цікавы прыклад: мужчыны на пытаньне "Як Вы ставіцеся да гомасэксуалістаў?" адказваюць амаль заўсёды аднназначна: "Я іх не разумею". А можа, усё-ткі неабходна зразумець, калі пра гомасэксуалізм згадваецца ўжо ў старажытнагрэцкай літаратуры, Бібліі і кроніках Адраджэньня; калі, як кажуць, Шэксьпір, Уайльд, Пруст ды Рэмбо былі гомасэксуалістамі? Менавіта з мэтай дабрацца да сутнасьці я і зьвярнулася да* ***сп. Зьміцера Капусьціна****, галоўнага сэксоляга Беларусі.*

***– Дзе ж хаваюцца фізіялягічныя і псыхалягічныя прычыны гомасэксуалізму?***

*– Праблема ў тым, што адназначнага адказу на гэтае пытаньне няма. Відаць, за сыходны пункт трэба ўзяць той факт, што чалавек паводле прыроды сваёй бісэксуальны. Гэткага меркаваньня прытрымліваюцца шматлікія заходнія навукоўцы. Сярод іншых чыньнікаў вылучаюць як асаблівасьці працяканьня цяжарнасьці ў маці, у выніку чаго полавая дыфэрэнцыяцыя скажаецца, так і адсутнасьць у сям'і бацькі-лідэра. Але дадзеныя мною тэорыі ўяўляюць зь сябе два палюсы, паміж якімі – мноства іншых тэорыяў, гіпотэзаў і проста меркаваньняў.*

***– Калі ж адбываецца канчатковы выбар сэксуальнае арыентацыі?***

*– Перш за ўсё, магчыма, гэта прыроджаны стан. Але, як правіла, выбар сэксуальнага аб'екта адбываецца паміж 12 і 18 гадамі. Менавіта ў гэты пэрыяд чалавек "выпрабуе' сваю сэксуальнасьць. Збольшага да 18 год 95% людзей ужо абралі сваю сэксуальную арыентацыю. Але жыцьцёвыя абставіны могуць накласьці свой адбітак і пазьней. Прыкладам, знаходжаньне ў турме. Некаторыя, нават выйшаўшы на волю, па-ранейшаму прытрымліваюцца іншай сэксуальнае арыентацыі. Хаця, здавалася б, у іх ёсьць усе магчымасьці весьці нармальнае – у нашым разуменьні – полавае жыцьцё. Што іх утрымлівае? Звычка ці нешта яшчэ? Адказаць цяжка.*

***– Цікава, ці можа чалавек зьмяніць сэксуальную арыентацыю, скажам, у 40 год?***

*– Што ж, тэарэтычна гэта магчыма. Неабходная нутраная патрэба, то бок незадаволенасьць сваёй сэксуальнай роляй, і адпаведныя ўмовы.*

***– Нярэдка ў людзей узьнікае пытаньне: ці магчыма пераарыентаваць гомасэксуаліста?***

*– Адразу мушу сказаць, што пераарыентацыяў практычна не адбываецца: мы маем справу зь біялягічнымі законамі. Вядома, шматлікія заходнія спэцыялісты імкнуліся зьдзейсьніць пераарыентацыю. Але для гэтага патрэбныя асаблівыя ўмовы. Па-першае, сам гомасэксуаліст мусіць насамрэч таго схацець. Па-другое, патрэбныя сябры, якія гатовыя былі б дапамагчы ў любы момант. Па-трэцяе, неабходны добры спэцыяліст, які б мог працаваць у напружаным рэжыме. Можаце меркаваць самі, наколькі ўсё гэта рэальна. Да таго ж, працэс пераарыентацыі можа заняць ад некалькіх год да цэлага жыцьця. Таму цяпер галоўны кірунак працы з гомасэксуалістамі – не пераарыентацыя, але адаптацыя іх да сьвету. У грамадзтве, дзе гомасэксуалісты часьцяком адчуваюць сябе ізгоямі, яны павінныя ўмець супраціўляцца – усьведамляць, што яны маюць права жыць так, як ім падабаецца.*

***Вось такія лякацічныя адказы я атрымала. Цяпер відавочна, што гомасэксуалізм – ня проста даніна модзе і што гомасэксуалісты зусім не псыхічна ненармальныя людзі. Гэта іншыя людзі, і шчасьце ў іх – іншае. Галоўнае, каб гэтае шчасьце не прыносіла шкоды іншым. А гомасэксуалісты не імкнуцца ўмешвацца ў жыцьцё звычайных людзей, тым болей што-небудзь у ім мяняць. Яны проста хочуць жыць так, як ім дыктуе іхняя прырода, іхняе "я". Натуральнае чалавечае жаданьне...***

***Гутарыла Марына Мікуліч***

Стася Куніцкая

# Піўныя гісторыі

*Калі вам уласьцівыя дабрыня й душэўная шырыня, калі ваш гаўбец даўно ператварыўся ў сховішча пустых пляшак, а на вуліцы за вамі сноўдаюць батальёны бабулек-ботлхантэраў*, калі вы ўважаеце дзень, пражыты бязь піва, змарнаваным – гэты артыкул для вас.*

Звычайна параўнаньне з адвечнымі каштоўнасьцямі, такімі, як золата ці хлеб, ёсьць прыкметай сапраўднае вартасьці і каштоўнасьці прадмэта размовы. Яшчэ савецкія журналісты прычапілі да піва ярлык «вадкі хлеб». І не дарма. Яго любяць усе! Ня верце тым, хто ўпарта не прызнаецца ў сваёй прыхільнасьці да піва: яны проста не знайшлі яшчэ "свайго" гатунку. Падзел піва толькі на сьветлае і цёмнае ёсьць памылковым. Цягам усяе гісторыі піваварства майстры несупынна працавалі над тым, каб заблытаць піўнога аматара-пачаткоўца.

Краіна пабаў падаравала сьвету портэр** і менш вядомы ў Беларусі стоўт***. Гэта цёмныя гатункі піва, амаль чорныя па колеры, з насычаным смакам і высокай шчыльнасьцю. Упершыню портэр сталі варыць у Лёндане ў 1722 г. як напой, які б мог задаволіць насільшчыкаў і прадстаўнікоў іншых зьнітаваных зь вялікімі фізычнымі высілкамі прафэсіяў. Пры канцы XVIII стагодзьдзя ірляндзкі півавар Артур Гінэс прадставіў вэрсію экстрашчыльнага портэру (stout porter). Неўзабаве назоў гэтага піва скараціўся да проста стоўту. Портэр утрымлівае менш алькаголю, чым стоўт. У ім таксама меней гарчынкі.



Ангельцам жа мы абавязаны і гатункам, прызнаным проста для спаталеньня смагі. Маільд**** мае мяккі, саладкаваты смак. Па колеры ён цёмнабурштынавы. Сьветлае піва – гэта сухі гатунак, у арыгінале – зь ячнева-арэхавым прысмакам. Цёмнае ж піва можна пазнаць ня толькі па колеры – яно мае мноства адмысловых смакавых кампазыцыяў: моцнае, сухое, з арэхавым ці садавіновым адценьнем...

Гатовае піва ўтрымлівае блізу 3 адсоткаў алькаголю (у моцна зброджаным напоі – каля 6 адсоткаў), 4–6 адсоткаў соладавага экстракту, 0,3–0,35% вугляkіслага газу і да 90 адсоткаў вады. Такім чынам, піва пры ўмераным спажываньні проста ня можа пашкодзіць пячонцы, ані стацца прычынаю лішніх кілаграмаў. Пры гэтым піва ўтрымлівае неабходныя і незамяняльныя для жыцьцядзейнасьці чалавечага арганізму рэчывы: розныя солі (найбольш важныя зь якіх – фасфаты), бялкі, цукровыя злучэньні, амінакіслоты. Піўныя інгрэдыенты пасьляхова змагаюцца з малакроўем, а вугляkіслы газ садзейнічае працэсам пераварваньня ежы.

## Жывы арганізм

Піва – жывы арганізм, які ёсьць півам, толькі пакуль жыве. У гэтым перакананая і бальшыня навукоўцаў. Яны тлумачаць, што піва – гэта ахмелены, зброджаны экстракт соладу, які знаходзіцца ў стане хаця і марудная, але сталага браджэньня. Прычым піва будзе мець характэрны смак, пакуль яно "шуміць". Калі ж браджэньне перапыняецца – зьмяняецца (да горшага) ня толькі смак напою, які ўжо цяжка назваць півам, але і ягоны склад.

У спэцыялістаў-дэгустатараў свой падыход да піва. Яны перадусім ацэньваюць смак і пах. Дакладнае шкалы крытэраў тут не існуе. Усё вырашае толькі асабісты густ аматараў. З празрыстасьцю справа больш строгая. Сапраўднаму напою за яе можна паставіць дзясятку, калі ён мае абсалютную празрыстасьць і бляск. Калі апошняга няма, знаўцы ставяць напіва 8-9 балаў. Пакаштаваць каламутнага піва знаўца не наважыцца.

Пенаўтварэньне і пенаўстойлівасьць ацэньваецца па вышыні пены ў налітым куфлі і часу, на працягу якога яна не спадае, утвараючы невялікую "лысінку" (участак адкрытае паверхні). Пена на бочкавым піве выдатнае якасьці павінна мець вышыню 25 міліметраў і трымацца ня менш за 3 хвіліны. Хаця 15-хвілімэтравы паказальнік на працягу палутара хвілін таксама здавальняючы. Калі ж пена ніжэйшая і хутка растае, варта задумацца над тым, як назваць тое, што плёскаецца ў куфлі. Для піва з пляшак патрабаваньні больш жорсткія. Яно мусіць трымаць двухсантымэтравую пену на працягу 3-х хвілін. Калі ж гэта шэдэўр піквара, дык, трапіўшы з пляшкі ў шклянку, яно будзе радаваць вока трыма сантымэтрамі пены аж чатыры хвіліны.

## Ісус Хрыстос і піва

Прыгатаваньне добрага піва – гэта сапраўднае мастацтва. Яно пачало разьвівацца ў глыбокай старажытнасьці. Яшчэ чатыры тысячы год таму ячневы адвар упадабалі ў Эгіпце. Куфаль-другі "ячневага віна" любяў прапусьціць у сьпякотны дзень Герадот (пра гэта захаваліся пісьмовыя сьведчаньні). Не адставаў ад яго і Дыядор Сіцылійскі, які сьцьвярджаў, нібыта піва эгіпцянам падараваў сам Азірыс – адзін з найбольш шаноўных у старажытнаэгіпецкай міталёгіі багоў. Некаторыя навукоўцы мяркуюць, што нават Ісус Хрыстос ператвараў ваду не ў віно, але ў піва. Проста легенда ў вынікну няякаснага перакладу зьмяніла свой сэнс.

Рымляне півам грэбавалі. Затое ў Ангельшчыне, Бэльгіі ды ў паўночнай Францыі піваварства спрадвеку лічылася ганаровым заняткам. Пазьней піва перацякло і ў Нямеччыну, дзе сталася нацыянальным напоем.




Піва (прынамсі, тое, што мы сёньня так называем – напой з соладу і хмелю) зьявілася ня вельмі даўно – у XIV–XVI стагодзьдзях. Раней з дабаўкамі хмелю ў піва не экспэрымэнтавалі. Да зьяўленьня гарадоў гэты напой варылі ў кожнай хаце самі гаспадары. Пазьней зьявіліся адмысловыя саслоўі майстроў-піавараў, якія спэцыялізаваліся на вытворчасьці розных гатункаў гэтага напою.

У Беларусі традыцыі піваварства таксама вельмі старыя. У самых старажытных летапісах сустракаюцца згадкі аб перавары – напоі, які нашыя продкі гатавалі зь мёду і піва. Чатыры разы на год, звычайна ў Вялікдзень, Зьміцераву суботу, на Масьленку ды на Каляды, а таксама да хрэсьбінаў і вясельля сялянам самім дазвалялася варыць піва, брагу і мёд, але толькі для хатняга ўжытку. Такія сьвяточныя застольлі ў тыя часы зваліся "асобым піўцом". Права на іх давалася найбольш руплівым працаўнікам і толькі на тры дні. Пасьля заканчэньня адведзенага часу староста мястэчка апячатваў рэшту напою да наступнага сьвята. Вытворчасьць піва не абкладалася ніякімі падаткамі, таму і атрымала вялікае распаўсюджаньне. Аднак пашыранасьць напою была ў дарэвалюцыйнай Беларусі не такой, як у заходнеэўрапейскіх краінах. Тут гандлявац півам ніхто і ня думаў.

## "Неяк у дуброве, неяк у зялёнай..."

Цяпер заводзкае піва можна набыць у кожнай краме і шапіку. Таму на звычай гатаваць хатняе піва забыліся. Але дакладна вядома, што напоі, прыгатаваныя з праверанных, якасных прадуктаў, заўжды смачнейшыя і карысьнейшыя ня толькі за "Крыніцу", якая апошнім часам сапсавалася, але й за прывазную "Балтыку".

Для экспэрымэнтатараў прапануем некалькі варыянтаў прыгатаваньня піва.

Для *ангельскага піва* трэба высушыць 3-4 кг зерня, назіраючы, каб зярняткі ня толькі не прыгаралі, але нават і не подсмажваліся. Потым стаўкчы зерне, усыпаць яго ў кацёл ці ў іншы посуд, наліць адно вядро гарачае вады (да 60°C), добра размяшаць, даць пастаяць гадзіны з тры, асьцярожна зьліць. На зерне, што засталося ў катле, зноў наліць гарачае вады (да 72°C), праз дзьве гадзіны зьліць і яе, пасьля наліць вядро халоднае (крынічнае), яе таксама зьліць праз 1,5 гадзіны. Ваду, зьлітую зь зярнятак, зьмяшаць разам. Разьвесьці 6 кг патакі (калі яе няма, можна скарыстаць павідла) у 2,5 вёдрах цёплае вады і выліць яе ў прыгатаваную вад-

касьць, пакласьці 200 г хмелю, згатаваць, мяшаючы. Праз дзьве гадзіны, калі вадкасьць астыне, уліць у яе дзьве шклянкі рошчыны і, разьмяшаўшы як мага лепей (хвілін 5-10), паставіць на месца, дзе была б пакаёвая тэмпэратура (18-25°C). Калі піва перабродзіць, зьліць яго ў бочку, якую пакінуць на тры дні адчыненаю. Затым корак закалаціць, і тыдні праз два атрымаецца выкшталцонае піва.

Пры гэтым трэба сьцерагчыся, каб вада, якую наліваюць на зерне, не была надта гарачая, бо кіпень у гэтай справе шкодны. Аб'ёмы вытворчасьці могуць быць якія заўгодна, адно толькі трэба захоўваць прапорцыі. Лепшы посуд – драўляны. Калі піва пачынае кіснуць, дык выратуе пакладзены ў яго сьвежы мёд: на сотню літраў піва пайтара кіляграма мёду. Перш чым бухнуць яго ў бурштынавае возера, мёд трэба разьвесці ў невялікай колькасьці піва. Калі мёд распусьціцца ў вадкасьці, субстанцыю ўліць у астатняе піва.

Калі вы хочаце зварыць *белае моцнае піва*, падрыхтуйце бочачку літраў на 50-60 (ня больш). Бочка ставіцца на донца, зьнізу ладзяць кран, а ў накрыўцы прадугледжваюць адтулінку. Гатуюць у катле 36-40 літраў вады, дадаюць туды 600-700 г хмелю, гатуюць яшчэ 6-10 хвілін. Працадзіўшы адвар, дадаюць у яго каля 7,5 кг цукру і 0,5 літра піўное рошчыны. Добра перамяшаўшы, выліваюць сумесь у бочку. Праз некаторы час (2-3 дні) піва пачне пеніцца, пасьля пена спадзе. У цёплую пару году піва збродждаецца за 3-4 тыдні. Калі першы час бочку трымаюць адчыненай, дык апошнія 10 дзён корак убіваюць. Корак адчыняюць на некалькі хвілін кожныя два дні, каштуюць піва (галоўнае – ня надта захапляцца працэсам каштаваньня). Калі яно страціць цукровы прысмак, бочку шчыльна зачыняюць, і яшчэ праз чатыры дні белае піва гатовае.

Калі вам спадабаецца плён вашае працы, можаце памыць урэшце ўсе пляшкі на гаўбцы, прыляпіць на іх цэтлікі са сваім імем, напоўніць арыгінальны посуд і частаваць сяброў. Найлепшы смак у піва тады, калі яго тэмпэратура не перавышае 7 градусаў па Цэльсію. Таму ўлетку яго някепска астудзіць, а ўзімку – трошку падагрэць. Адкаркоўваць піва трэба толькі непасрэдна перад ужываньнем, каб вуглякіслы газ, які надае вастрыню і спэцыфічны смак, ня выйшаў. Варта мець на ўвазе, што пад дзеяньнем сьвятла, занадта нізкае ці высокае тэмпэратуры піва мутнее, кісьне, губляе смак. Не выпадкова вытворцы хаваюць піва ў пляшкі зь цёмнага шкла ці нават у бляшанкі. Калі, рыхтуючыся да вечарыны, вы закупілі шмат піва, дык, каб госьці былі задаволеныя, знайдзіце для яго цёмнае і халаднаватае месьцейка (холадам дужа не перастарайцеся: піўное марозіва трушчыць пляшкі гэтак жа проста, як вашыя госьці – чыпсы). Да таго ж, больш агіднага агрэгатнага стану піва проста не існуе.

Акрамя чыпсаў да піва можна прапанаваць адмыслова напечаныя вырабы зь цеста: салёную саломку, салёныя сушкі, сухарыкі. Падыдзе таксама сыр, ракі, крабы, вобла, мясная ды рыбная вяндліна.




## "Гэй там, налівай!"

Нядаўна на абсягах Інтэрнэту я натрапіла на вынікі незвычайнага апытаньня. Рэспандэнты мусілі адказаць, у чым ім бачыцца сэнс піва. Сваімі думкамі з гэтай нагоды падзяліліся 252 чалавекі. 12 зь іх прызналіся, што піва для іх ёсьць стымулам працоўнага дня, 16 – стымулам добрага апэтыту. 15 чалавек заявілі, што ў піве сэнсу няма, калі да яго не прыкладаецца вобла. 85 рэспандэнтаў лічаць, што ўвесь сэнс піва ў тым, што яго папросту трэба піць. Нарэшце, 110 апытаных сфармулявалі прызначэньне піва без залішняе мудрагелістасьці: піва мусіць несьці людзям шчасьце. А як бы на пастаўленае пытаньне адказалі Вы? Чакаем Вашых варыянтаў на e-mail: tess@aport.ru.

**** Ад англ. bottle – пляшка, hunter – паляўнічы: чалавек, які мэтаскіравана зьбірае пляшкі, высочвае іх у руках аматараў піва ды атакуе пытаньнем: "Вам бутэлечка не патрэбная?"***

***** Porter (англ.) – насільшчык***

****** Stout (англ.) – моцны***

******* Mild (англ.) – сярэдні, умераны***








*Андрусь Белавокі*

## "Вольныя танцы: alternatyva_by" (розныя выканаўцы) BMAgroup, 2001

Новы, трэці дыск "Вольных танцаў" зь інтэрнэтаўскай назвай "Alternatyva_by", у адрозьненьне ад сваіх папярэднікаў, зьяўляецца цалкам беларускамоўным. Аднак гэта не выратоўвае яго ад крытыкі, якую вам давядзецца чытаць ніжэй.

На жаль, брэнд "альтэрнатыва" цалкам страціў свой першапачатковы сэнс. Так, гэтая музыка ёсьць і заўсёды будзе альтэрнатывай расейскамоўнаму засільлю, але тое, што прэзэнтаванае на гэтай складанцы, ня ёсьць альтэрнатыўнай музыкай у прамым сэнсе гэтага слова. Як лічаць самі прадуцэры кампіляцыі, гэта "камэрцыйная альтэрнатыва", а папросту, за некаторымі выключэньнямі, мэйнстрым. БМА – адныя з тых, хто ствараюць сучасную беларускую масакультуру (гэта відаць і па іх жоўтым музычным выданьні – часопісе "POST'R"). Справа, вядома, патрэбная, але не сказаць каб вельмі прывабная – у прыватнасьці, для нашай рок-музыкі, якая заўсёды адрозьнівалася сваёй інтэлектуальнасьцю і нават элітарнасьцю.

Складанка таксама вылучаецца тым, што на ёй прэзэнтаваныя гурты з "усіх рэгіёнаў Беларусі". І прадстаўніцтва гэтае збольшага не расчаравала, таму слухаць яе сапраўды цікава, і некаторыя песьні ўжо можна пачуць на нашых FM-станцыях.

Амаль усе творы на складанцы новыя, таму слухаць яе сапраўды цікава, і некаторыя песьні ўжо можна пачуць на нашых FM-станцыях.

Што тычыцца непасрэдна музыкі, то першае ўражаньне – "гранды" беларускага року прэзэнтавалі бездакорныя творы, а моладзь настолькі жвава пачынае, што слухаецца ня горш за грандаў. За рэдкім выключэньнем.

Пачынаюць складанку **ЦЯНІ-ТАЛ-КАЙ** зь песьняй пад англійскай назвай **"You Know I Wanna Listen Disco"**. Што ж, гэта сапраўды дыска, трохі сьцёбнае, але з жахлівымі вакаламі і цалкам бессэнсоўным тэкстам. Слухаць яго другі раз ня хочацца.

Туды ж хочацца адправіць і **NRM**-аўскі **"Katlet-Matlet"**, рэмікшаваны да непазнавальнасьці **d.j.хоку**. Песьня ўяўляе сабой прымітыўны і да жахлівага банальны біт узору менскіх дыскатэк, на які пакладзены бездакорны вакал Лявона Вольскага. Поўная адсутнасьць новых ідэяў у музыцы. У рэміксавым сьвятле гэтага твору нават, шчыра прызнацца, ня вельмі ўдалая перапрацоўка дзюбэлеўскіх "Зорачак" пад Rammstein выглядае досыць прывабна. У песьні ад NRM мала што засталося, зьнікла псыхадэлічнасьць, драйвавасьць (натуральна), а што твор у выніку набыў – не відаць. Маркуючы па гэтым запісе, рабіць рэміксы ў нас яшчэ не навучыліся. Ніколі ня думаў, што NRM можна так сапсаваць. А чалавек жа (ды-джэй, у сэнсе), мабыць, стараўся.

Складанка таксама вылучаецца нетрадыцыйна вялікай колькасьцю гуртоў зь дзявочым вакалам: **Long Play**, **Kriwi**, **The Dzviery**, **Postscriptum**, **Айша** складаюць чацьвертую частку дыску.

У **Long Play** з творам **"Адлятаютаю"** назіраецца міграцыя ў бок попмузыкі з фонавай гітарай на другім пляне. Лёгкі, без напружаньня думкі, тэкст зь некалькімі памылкамі, характэрныя і вельмі прывабныя шматгалосыя вакалы. Карацей, слухаць можна.

**The Dzviery**, **"Чайніч_OK"**, зьявіліся для мяне адкрыцьцём дыску і апошняга часу ўвогуле. Простая і незабыўная мэлёдыя, "esperento

version" тэкст, які, як я разумею, уяўляе сабой польскія словы, прасьпяваныя па-беларуску. Каму не спадабаецца – можна і "ў морду чайнічком" атрымаць.

**Postscriptum, "Кароль Залатой Травы".** Зь перамогай на Басовішчы і зьяўленьнем новага сынглу PS выйшлі на іншы якасны ўзровень, што заслугоўвае пашаны й падзякі. Страта дзьвюх вакалістак, вядома, нічога добрага не прынесла, мне іх дагэтуль не стае ў музыцы гурта, але гэтая песьня і апошні сынгл кажуць, што гурт прэтэндуе на яшчэ большы ўзьлёт. Адны з тых нямногіх, хто яшчэ прадукуе сьвежыя ідэі ў беларускай музыцы.

**Kriwi, "Hannatchka".** Як заўсёды ў Kriwi, назва нібыта на лацініцы, але з памылкамі. Таксама гранд беларускай музыкі, таксама новы твор. Бездакорны для гурта, але для іх жа і традыцыйны. Аднак слухаць прыемна. Толькі "цяжкая доля беларускай дзяўчыны" ў інтэрпрэтацыі Kriwi ўжо крыху надакучыла.

**Айша, "Ёкагама"** – нечаканая вельмі якасны поп-твор, сыграны, што адчуваецца, сапраўднымі рокерамі. Навідавоку захапленьне The Cure. Хоць і пра "далёкую Ёкагаму", але чапляе за жывое, выдатна. Аднак, як відаць з канцэртовага выступу, гэта лепшы твор музыкаў. Кapайце залатую жылу, і вы шмат чаго дасягнеце!

**Exist, "Адкуль"** – постграндж, але постграндж вельмі якасны й нестандартны. Словы, як заўсёды ў Exist, простыя й яскравыя, вобразнасьць на высокім узроўні, электронныя дадаткі ў музыцы – да месца.

**Крама, "Дай мне шанец".** Геніяльны гурт, калос беларускага рытм-н-блюзу, які можа адной песьняй сказаць больш, чым многія альбомам. Адна зь лепшых песьняў дыску і апошняга часу.

**Цмокі, "Дзеці".** На складанцы назва гурта напісаная няправільна, дзякуючы, відаць, няграматнасьці сябраў БМА, і ў выніку атрымаліся поп-рокеры Smokie. А гурт жа добры. Запісаныя Цмокі ня вельмі якасна, асабліва губляюцца бубны і бас. Тэкст песьні на фоне тэкстаў большасьці нашых рокераў – на парадак вышэйшы, ёсьць над чым задумацца. Досыць традыцыйны, але вельмі прыстойны рок-твор.

**Імпэт, "Зусім ня проста"** – якасная поп-песьня, але зноў памылкі ў тэксце, і сам па сабе ён досыць слабы, а гітара, прабачце, пры ўсёй прыгажосьці, проста банальная.

**Happy Face, "Рай".** Маладзечанцы на гэты раз палітычна бездакорныя, але музычна безыдэйныя. Лепш паслухайце Nirvana, калі так карціць: як было два гады таму, гэтак, адзін у адзін, і засталося. Ніякага прагрэсу. Ну, падабаецца ім так, што тут зробіш.

**Neuro Dubel** нарэшце запісалі адзін са сваіх лепшых твораў, беларускамоўны **"Забі амэрыканца"**, дзе прапануюць нам забіць у сабе амэрыканскі лад жыцьця. Сапраўдныя, цудоўны, сьветлы, сонечны рэгі, гурт у новым сьвятле, але ў дошку свой.

**Сад, "Народная".** Тэкст песьні нагадвае творчасьць Ляпіса Трубяцкога – гэткая ж "савецкая трасянка", толькі крыху больш беларуская, калі так можна сказаць у дачыненьні да гэткай лірыкі. Музыка ня ўразіла. Можа, музыкі Саду – хоць людзі добрыя...

**Акруга Вольнага Мастацтва ("Камень")** на сёньняшні момант зьяўляецца адным з найбольш моцных канцэртовых гуртоў на Беларусі і ў стане завесьці любую залю, сам сьведка. Іх вольны фольк знаходзіцца недалёка ад музычнай прасторы Безь Білета. Растуць канкурэнты.

**"Дзеўка-сямілетка"** – твор для Палацу вельмі традыцыйны. Весела, ясна, а яшчэ кажуць, што фольк у нас сумны... Ня горш за ірляндзкі!

**Зелень дарог** з творам **"Крыльле"** прапанавалі псыхадэлічны бард-рок, блізкі пiцерскаму "Зімовью Зверей", але гэта хутчэй канцэртовыя ўражаньні. Добра, але больш пакуль казаць няма чаго, чакайма новых запісаў.

**Ulis, "Першы сьнег"** – нічога новага для Ўлісу, якасна, роўна, цудоўная гітара ў рэчышчы сусьветных гітарных дасягненьняў. Толькі нешта апошнім часам падаецца, што сп.Корань стаў горш сьпяваць.

**Ur"ia, "Зялёны дубочак remixed"** – з чыстага псыхадэлу зрабілі псыхадэл электронны, і зрабілі надзіва нядрэнна. Для Беларусі дык проста супэр.

**Безь Білета, "Мая краіна Беларусь"** – галоўны гіт канца 2000-2001 году. Псыхадэлічны нестандартны фольк і геніяльная ў сваёй прастаце мэлёдыя. Нешматлікія, простыя й шчырыя словы. Проста нечалавечая і выключна беларуская прыгажосьць.

**Zet, "Нармальна"** – для складанкі абралі больш-менш мэйнстрымавую, нават прыпапсаваную песьню, больш уласьцівую для NRM, чым для Zet, і па тэксце, і па музыцы. Першы раз, калі Zet можна паслухаць у запісе. Канцэртовага драйву няма, але ёсьць досьвед і якасьць. Рытм-сэкцыя – геніяльная.

Апошнія ўражаньні: па музыцы – вельмі цікавы альбом, стане адным з вашых улюбёных набыткаў апошняга часу. Але многія тэксты гуртоў знаходзяцца на вельмі нізкім узроўні. Гэта пужае, але выйсьце падказваюць і **Крама**, і **Цмокі** з заўсёды цікавымі тэкстамі, і **Безь Білета** з геніяльным мінімалізмам.





# Адукацыя і праца

## Вынікі экспэртнага апытаньня "СД"

*«Студэнцкая думка" распачала яшчэ адзін дасьледчы праект – сэрыю экспэртных інтэрвію, прысьвечаных пытаньню працаўладкаваньня выпускнікоў ВНУ. Сёньня мы прэзэнтуем вынікі першага этапу. Першымі ахвярамі, то бок групай экспэртаў, што падлягаюць апытаньню, былі абраныя дэканы факультэтаў некалькіх менскіх ВНУ. Мы палічылі іх людзьмі, абазнанымі ў праблеме працаўладкаваньня, паколькі менавіта яны вырашаюць пытаньні, зьвязаныя з размеркаваньнем выпускнікоў. Дэканы маюць інфармацыю пра заяўкі на спэцыялістаў ад разнастайных арганізацыяў (мы, вядома, усьведамляем, што гэта збольшага дзяржарганізацыі). Крым таго, выпускнікі бясплатнае формы навучаньня, што ідуць "на бок" (не ў дзяржсэктар), мусяць прадставіць інфармацыю пра тое, куды менавіта яны ідуць (заяўкі ад фірмаў). Такім чынам, рашэньне прынятае, анкеты складзеныя... За працу!*

### Доступ да цела

Прыгоды распачаліся ў першым жа дэканаце. На спробу скапіяваць навучальныя пляны па спэцыяльнасьцях, якія нас цікавілі (цалкам нармальнае для таго ж абітурыента жаданьне), пэрсанал адрэагаваў нэрвовай рэплікай: "Гэта сакрэтная інфармацыя!" Тут мы зразумелі, што ўліплі... Мы нават ня надта зьдзівіліся, калі нам сказалі, што, апроч дэкана, з намі пра разьмеркаваньне ніхто размаўляць ня будзе... Безь пісьмовага дазволу рэктара. Паспытаўшы шчасьця ў некалькіх дэканатах, мы ўсё-ткі вырашылі пайсьці да рэктара. Вось тады мы ўпершыню падумалі, што, бадай, не ўкладземся ў тэрміны...

У рэктаратах нас сустракалі паразнаму. Лепей за ўсё – у Палітэхнічнай акадэміі (за што ім вялікі дзякуй!). Найболей часу мы згубілі ў БДУ. У любым выпадку працэс атрыманьня паперы ад рэктара заняў ад 5 дзён да месяца, што складаліся з суцэльных друкаваньняў лістоў за подпісам рэдактара і пячаткаю "CD", бегатні ад аднаго чыноўніка да другога, сядзеньня ў прыёмных... і адчуваньня, што час губляецца намарна.

Такім чынам, што за інфармацыю мы сабралі? З-за ўсёй гэтай бегатні з дазволамі давялося крыху... скараціць (мякка кажучы) нашыя дасьледчыцкія пляны. Суцяшаючы сябе думкамі, што мэтодыку ўсё адно трэба абкатваць і што мы ўсіх яшчэ пасьпеем апытаць, мы абмежаваліся досьледамі толькі на самых прэстыжных факультэтах. І ўсё адно пасьпелі "накрыць" толькі дзьве ВНУ – БДПА і БДЭУ.

Датычна спэцыяльнасьцяў, якія можна атрымаць на тым ці іншым факультэце, мы фіксавалі наступную інфармацыю: колькасьць заявак, якія атрымлівае факультэт на сваіх спэцыялістаў; ацэнка шанцаў знайсьці *любую* працу; ацэнка шанцаў знайсьці *добрую* працу; найбольш тыповыя месцы працаўладкаваньня для спэцыялістаў у гэтай галіне, якія толькі што скончылі ВНУ; найлепшыя магчымыя для іх месцы працаўладкаваньня.

### БДПА

**Факультэт інфармацыйных тэхналёгіяў і робататэхнікі**

***Спэцыяльнасьць:*** праграмнае забесьпячэньне інфармацыйных тэхналёгіяў.

*Заявак* – 1,5–2 на чалавека за год.

*Шанцы* знайсьці працу высокія ў абодвух выпадках (выпускнік лёгка знойдзе любую працу, а таксама лёгка знойдзе добрую працу).

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* гандлёвая сетка (гумы ды цумы); заводы, прамысловыя прадпрыемствы; мэдычныя ўстановы.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* супольныя кампутаровыя фірмы, што займаюцца распрацоўкай праграмнага забесьпячэньня; банкі.

*Заявак* – па 2 на чалавека.

***Спэцыяльнасьць:*** мэтралёгія.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня*: Інстытут мэтралёгіі, прадпрыемствы.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* Інстытут мэтралёгіі, трактарны завод.

***Спэцыяльнасьць:*** стандартызацыя і сэртыфікацыя.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – высокія. *Тыповыя месцы працаўладкаваньня:*

Інстытут стандартызацыі, прадпрыемствы.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* Белгістандарт; трактарны завод.

**Спэцыяльнасьць:** эканоміка і кіраваньне на прадпрыемстве.

*Шанцы* знайсьці любую працу – сярэднія (!), добрую працу – сярэднія (!).

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* дзяржпрадпрыемствы (у якасьці бугальтара), упраўленьне газіфікацыі.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* аўтазавод, трактарны завод.

**Энэргетычны факультэт**

*Заявак* – па 1,5 на чалавека.

**Спэцыяльнасьць:** эканоміка і кіраваньне на прадпрыемстве.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – высокія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* канцэрн "Белэнэрга", прамысловыя прадпрыемствы (аддзел энэргетыкі).

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* канцэрн "Белэнэрга" (фінансавае ўпраўленьне).

**Аўтатрактарны факультэт**

*Заявак* – па 1,5 на чалавека.

**Спэцыяльнасьць:** эксплюатацыя транспартных сродкаў.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – высокія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* Міністэрства транспартных камунікацыяў, прадпрыемствы аўтамабільнага транспарту, станцыі тэхабслугоўваньня.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* аўтазавод, Міністэрства транспартных камунікацыяў.

**Спэцыяльнасьць:** гарадзкі электрычны транспарт.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* МАЗ, тралейбусныя дэпо, электратэхнічны завод, Белкамунмаш, Мінэлектратранс, мэтрапалітэн, Мінпасажыраўтатранс.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* Белкамунмаш.

**Машынабудаўнічы факультэт**

*Заявак* – па 1,5 на чалавека.

**Спэцыяльнасьць:** эканоміка і кіраваньне на прадпрыемстве.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* машынабудаўнічыя прадпрыемствы, фінансавыя арганізацыі, органы дзяржкіраваньня.

*Найлепшыя месцы працы:* фінансавыя арганізацыі.

## БДЭЎ

**Факультэт мэнэджмэнту**

**Спэцыяльнасьць:** эканоміка і кіраваньне на прадпрыемстве.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* дзяржаўныя і недзяржаўныя прадпрыемствы, банкі, мясцовыя органы кіраваньня, Мінсельгасхарч, прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* любое камэрцыйнае прадпрыемства.

**Спэцыяльнасьць:** эканамічная кібэрнэтыка.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* прыватныя фірмы, банкі.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* буйныя камэрцыйныя прадпрыемствы.

**Спэцыяльнасьць:** дзяржаўнае і муніцыпальнае кіраваньне.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – ніжэй за сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* камэрцыйныя фірмы і прадпрыемствы, кіраўнічыя пасады.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* органы дзяржкіраваньня, у т.л. і найвышэйшага рангу.

**Факультэт права**

**Спэцыяльнасьць:** праваздаўства.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – высокія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* МАЗ, Міністэрства юстыцыі, падатковыя органы, Тэхнабанк, Белтрансгаз, Дзяржаўны страхавы камітэт, гарвыканкамы, прыватныя структуры.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* дзяржаўныя гаспадарчыя структуры, органы кіраваньня і камэрцыйныя прадпрыемствы.

**Факультэт міжнародных зносінаў**

**Спэцыяльнасьць:** сусьветная эканоміка і міжнародныя эканамічныя зносіны.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – ніжэй за сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* дробныя фірмы (дзяржаўныя і прыватныя), прадпрыемствы.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* МЗС, Нацбанк, буйныя сумесныя прадпрыемствы.

**Фінансава-эканамічны факультэт**

**Спэцыяльнасьць:** фінансы і крэдыт.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* фінансавыя і падатковыя органы.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* падатковая інспэкцыя.

**Факультэт маркетынгу**

**Спэцыяльнасьць:** маркетынг.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – высокія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* дробныя камэрцыйныя фірмы і рэклямовыя агенцтвы, дробныя гандлёвыя фірмы.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* буйныя рэклямовыя агенцтвы.

**Вышэйшая школа турызму**

**Спэцыяльнасьць:** эканоміка і кіраваньне сацыяльна-культурнай сфэрай.

*Шанцы* знайсьці любую працу – высокія, добрую працу – сярэднія.

*Тыповыя месцы працаўладкаваньня:* дробныя камэрцыйныя фірмы, дробныя турфірмы.

*Найлепшыя месцы працаўладкаваньня:* буйныя турфірмы, рэстарацыі, гатэлі.

***Апытаньне было праведзенае групай сацыёлягаў паводле замовы "CD"***





Алена Філімонава

# Вучыцца, не журыцца

*Першыя летнія тыдні сёлета не прынесьлі чаканае цеплыні. Затое, незалежна ад надвор'я, гарачыя часы надышлі для абітурыентаў. Каб спадабацца прыёмнай камісіі факультэту, пра які марылі, учорашнія адзінаццацікляснікі праяўляюць усе свае здольнасьці, назапашаныя за школьныя гады.*

Канчатковая мэта кожнага абітурыента – скарыстацца з ласкі, якую робіць ім дзяржава, запрашаючы на бясплатную вучобу ў свае ВНУ. Але колькасьць месцаў там абмежаваная. Што можа быць горай за разгубленасьць хлопца ці дзяўчыны, якія, недабраўшы аднаго-двух балаў, змушаныя шукаць сабе іншага занятку на бліжэйшы год? Асабліва актуальная гэтая праблема для хлопцаў. У выпадку няўдачы яны далучацца не да бескляпотнага (прынамсі, калі няма сэсіі) студэнцтва, а да пакутнікаў-салажатаў.

Досьвед папярэдніх генэрацыяў паказвае, што выдзіраньне акуратненька прычасаных валасоў і нэрвовае выпальваньне пачку цыгарэтаў за гадзіну яшчэ нікога не ўратавала. Да таго ж, прычына для адчаю не такая ўжо сур'ёзная. Праўда, вырашэньне праблемы запатрабуе фінансавых выдаткаў. У небаракі-абітурыента яшчэ засталася свабода дзеяньня і права выбару. Акрамя таго, ёсьць месцы, дзе моладзевая ініцыятыва і творчасьць у атрыманьні інфармацыі не падаўляюцца, а толькі вітаюцца. На жаль, бясплатныя аддзяленьні дзяржаўных ВНУ не заўжды ёсьць такімі месцамі.

У недзяржаўнай жа ВНУ студэнт ня проста кліент – гэта гаспадар становішча. Ён не залежыць ад выбрыкаў дэкана і прыдзіраўлівасьці выкладчыкаў. Стварыць добры базіс для кар'еры кожнага, хто трапляе ў сьцены недзяржаўных ВНУ, – вось канчатковая мэта кожнае зь іх. Чым больш геніяў яны выпусьцяць, тым лепшая будзе ў іх рэпутацыя. Таму ў **Інстытуце сучасных ведаў** (ІСВ) да кожнага студэнта ставяцца як да патэнцыйнага генія з прыхаванымі здольнасьцямі.

Інстытут сучасных ведаў вабіць студэнцтва перадусім сваёй рэпутацыяй найстарэйшай недзяржаўнай беларускае ВНУ і дасьведчанасьцю ў актуальных цяпер спэцыяльнасьцях. Штогод дыплёмы атрымліваюць эканамісты, спэцыялісты па мэнэджмэнце на прадпрыемствах, у галіне прыродакарыстаньня. Не зьмяншаецца папулярнасьць сацыяльнае пэдагогікі і журналістыкі. Усяго ў інстытуце 7 факультэтаў, дзе вядзецца падрыхтоўка адмысloўцаў у 14 спэцыяльнасьцях. Абсалютная бальшыня выпускнікоў не сутыкаецца зь цяжкасьцямі пры працаўладкаваньні, бо такія спэцыяльнасьці цяпер вельмі запатрабаваныя. Плюсам таксама ёсьць пэрспэктыва ўладкаваньня ў сапраўды сур'ёзную кампанію, а не размеркаваньне ў адну з палескіх вёсак загадчыкам клюбу. Адылі, адукацыя, атрыманая ў Інстытуце сучасных ведаў, дае дадатковыя перавагі тым, хто пачынае самастойна зарабляць на жыцьцё.

Інстытут сучасных ведаў робіць моцны ўхіл у практычнае засваеньне новае спэцыяльнасьці. Моладзь вучаць перадусім тым рэчам, якія ім давядзецца рабіць

пасьля на працоўных месцах. Для студэнцтва і выкладчыкаў ладзяцца рэгулярныя стажыроўкі за мяжой. Адукацыя ж у дзяржаўных ВНУ ўсё-ткі больш акадэмічная.

Навучаньне ў Інстытуце сучасных ведаў – гэта ня толькі лекцыі, сэмінарскія заняткі ды сэсіі. Кіраўніцтва парупілася стварыць усе ўмовы, каб студэнцтва магло самастойна павышаць узровень сваіх ведаў па любой з дысцыплінаў. Некалькі кампутаровых клясаў увесь час адчыненыя для моладзі. Доступ у Інтэрнэт заўжды вольны, а канэкт досыць якасны. Праблемай для ІСВ пакуль ёсьць адсутнасьць сучаснае і разнастайнае літаратуры. Але кіраўніцтва гэтае ВНУ спадзяецца неўзабаве вырашыць гэтае пытаньне: інстытут ужо пачаў зьбіраць уласную бібліятэку.

Вельмі часта ў дзяржаўных унівэрсытэтах ды інстытутах інфармацыю проста запіхваюць у галаву навучэнцам. Зрэшты, яна там доўга не затрымліваецца. Завучаныя на памяць тэксты зьнікаюць з галавы адразу пасьля таго, як выкладчык расьпісаўся ў залікоўцы. Факты ж, на пошук якіх было выдаткавана нямала часу і высілкаў, дасьледаваньні, праведзеныя па ўласнай ініцыятыве, запамінаюцца значна лепей і маюць значна большую карысьць. Калі ж здабытая інфармацыя будзе яшчэ й прааналізаваная, а на грунце самастойных досьледаў паўстануць арыгінальныя высновы, студэнт можа лічыцца сапраўдным знаўцам у абранай ім галіне.

Вядома, пры ўсёй той самастойнасьці студэнтаў не кідаюць на волю лёсу. Выкладчыкі рыхтуюць безьліч цікавых і карысных курсаў для сваіх навучэнцаў. Апроч 62 беларускіх прафэсараў і 21 доктара навук (а таксама некалькіх дзясяткаў дацэнтаў ды кандыдатаў навук), у інстытуце выкладаюць прафэсары з Ангельшчыны і Злучаных Штатаў, сямёра акадэмікаў і сябраў-карэспандэнтаў нацыянальных, замежных і міжнародных акадэмій. На свае майстар-клясы і практычныя заняткі запрашаюць народныя артысты Беларусі І. Дабралюбаў і В. Дайнэка, мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысэр тэатру “Хрыстафор” Я. Крыжаноўскі і сьпявачка Іна Афанасьева. Гэта толькі няпоўны пералік усяго, што прапануецца ў дадатак да абавязковае праграмы, зацьверджанае Міністэрствам адукацыі.

І ўсё ж бацькі, якія змушаныя будуць плаціць за адукацыю свайго дзіцяці ў інстытуце, насьцярожана падлічваюць, колькі ж будзе каштаваць вышэйшая адукацыя іх дачкі ці сына ў недзяржаўнай ВНУ. Кошт навучаньня ў Інстытуце сучасных ведаў можна суаднесьці з тымі грашыма, якіх вымагае навучаньне на платных аддзяленьнях дзяржаўных ВНУ. Але ў прыватным інстытуце за гэтыя грошы можна атрымаць непараўнальна болей. На факультэце журналістыкі ў Белдзяржунівэрсытэце студэнты плацяць больш як 1000 USD за год. Каб вучыцца на аналягічным факультэце ў ІСВ, спатрэбіцца 700–750 умоўных адзінак. Адылі, калі студэнт стaранны і на працягу двух першых гадоў свайго навучаньня атрымліваў толькі добрыя адзнакі, пачынае працаваць сыстэма зьніжак. Можна спадзявацца на памяншэньне аплаты адразу на 15 адсоткаў. Зь цягам часу памер зьніжкі дасягае трох чвэрцяў ад поўнага кошту навучаньня.

У дзяржаўных ВНУ розьніца паміж студэнтам-платнікам і бюджэтнікам толькі ў тым, што апошні, калі вучыцца пасьпяхова, атрымлівае стыпэндыю. Ані навучальныя праграмы, ані выкладчыцкія патрабаваньні да змушаных плаціць не адрозьніваюцца ад тых, якія прад'яўляюцца да стыпэндыятаў. Па сутнасьці, тысячы студэнцкіх даляраў ёсьць платай за тыя паўтара-два балы, якія студэнт ня здолеў набраць на ўступных іспытах. Дыплёмы ж і платнікі, і бюджэтнікі атрымліваюць аднолькавыя.

Грошы, заплачаныя ў Інстытуце сучасных ведаў, дазваляюць студэнтам разьлічваць на амаль індывідуальны падыход (заняткі вядуцца ў малых групах), што дапамагае кожнаму студэнту праявіць усе свае здольнасьці. Акрамя дыплёму дзяржаўнага ўзору, ІСВ выдае яшчэ і дыплём міжнародны, які прызнаецца ва ўсіх краінах, што падпісалі канвэнцыю ЮНЭСКА ад 11 красавіка 1997 году. Студэнты, што маюць у працэсе навучаньня сярэдні бал, не ніжэйшы за 4, могуць на старэйшых курсах прайсьці дадатковы курс бакалярскае падрыхтоўкі і атрымаць акадэмічную ступень бакаляра РБ.

Дэмаграфічныя ваганьні амаль дваццацёхгадовае даўніны не даюць ІСВ забыцца на жорсткую канкурэнцыю зь дзяржаўнымі ВНУ, якая неўзабаве мусіць яшчэ болей абвастрыцца. Таму стаўка ў ІСВ робіцца на якасьць падрыхтоўкі і магчымасьць скарыстаць атрыманую адукацыю для кар’ернага росту. Навязваюцца міжнародныя кантакты, запрашаюцца цікавыя лектары, адчыняюцца новыя спэцыяльнасьці... Тут заўжды радыя тым, каму патрэбны ня проста ВНУшны дыплём, але сур’ёзны навуковы базыс для далейшых дасягненьняў у працы.

**"ДААС" - аўтарызаваны дылер кампаніі LEXMARK**